



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 канал ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

21 красавіка 2017 года №16 (1147)


# У педагогі – без экзаменаў. Але не ўсе

**Сёлета выпускнікі педкласаў рэгіёна змогуць паступіць у педагагічныя ВНУ без тэставання.**

старонка 2

Архіў "РГ".





## Новая гульня "Прасцей простага": не выйграем розумам, дык возьмем шоу

старонка 6

## Адкуль у Ільі ўзялася манета Свяшчэннай Рымскай імперыі

старонка 20

ТЭМА НУМАРА

# У педагагічны ўніверсітэт – без тэставання!

## Такая магчымасць будзе ў выпускнікоў педкласаў

**Цяпер для таго, каб паступіць на пэўныя спецыяльнасці ў педуніверсітэты, будзе дастаткова атэстата аб атрыманні агульнай сярэдняй адукацыі.**

Пра гэта сведчыць пастанова №21 ад 16 сакавіка 2017 года. Дакумент апублікавалі 14 красавіка. У ім зацвердзілі спіс педагагічных спецыяльнасцяў, пры паступленні на якія асобы залічваюцца ва ўстановы вышэйшай адукацыі без уступных экзаменаў.

Але не ўсе. Такую льготу атрымаюць толькі абітурыенты, якія скончылі педагагічныя класы.

Ды і для іх не ўсё будзе так проста, як падаецца на першы погляд. Для паступлення ў дакуменце аб адукацыі павінны быць адзнакі не ніжэй за сем балаў па ўсіх вучэбных прадметах і адзнакі не ніжэй за восем балаў па профільных вучэбных прадметах.

Залічваць у педагагічныя ВНУ будуць пры наяўнасці рэкамендацыі педагагічнага савета ўстановы адукацыі, якую скончылі абітурыенты. А таксама па выніках гутаркі, якую праводзяць у ВНУ.

**Студэнты, якія паступяць такім чынам, будуць вучыцца на бюджэтнай форме навучання, але абавязаныя працаваць па размеркаванні не менш за пяць гадоў пасля заканчэння ўніверсітэта.**

Ці шмат педагагічных класаў у школах рэгіёна? Чым яны адрозніваюцца ад звычайных? І ці паўплывае льгота на выбар абітурыентаў?

Мы даведаліся, што педагагічныя класы або групы педагагічнай накіраванасці ў класе ёсць ва ўсіх раёнах нашага рэгіёна. У Вілейцы, напрыклад, пяць такіх класаў: па два – у першай і пятай школах і адзін – у другой гімназіі. Як бачыце, усе яны працуюць у гарадскіх школах. А вось у Маладзечне, наадварот, пяць педкласаў стварылі толькі ў сельскіх школах – два – у чысцінскай, па адным – у красненскай, турэцбаярскай і алёхнавіцкай.

### Дырэктар вілейскай школы №1: у нашых педкласах – толькі дзяўчаты

Па словах дырэктара вілейскай школы №1 **Іны Крышкоўскай**, дагавор аб супрацоўніцтве з педагагічным універсітэтам імя Максіма Танка яны заключылі на пяць гадоў.

У школе працуюць два педкласы: дзясяты і адзінаццаты. На працягу двух гадоў яны наведваюць абавязковы факультатыў "Уводзіны ў педагагічную прафесію". Акрамя гэтага, у дзясятым класе на паглыбленым узроўні вывучаюць рускую і англійскую мовы, у адзінаццатым – рускую і беларускую. Настаўнікі са школы наведваюць канферэнцыі і вебінары ва ўніверсітэце

Калі стала вядома, што ў школе адчыняць педкласы, пра гэта расказалі на бацькоўскім сходзе. З вучнямі праводзілі гутаркі пра ўмовы паступлення ў такі клас. Сюды, як і ў любы профільны клас, неабходныя адзнакі "сем" і "восем" у пасведчанні за курс базавай школы. З вучнямі праводзілі псіхолага-педагагічную дыягностыку, каб высветліць, ці змогуць яны у будучым працаваць з дзецьмі.

### Хочаш у педагагічны? Вучыся на сямёркі і васьмёркі і збірай партфоліа

У школе вучням з педкласа даюць максімальную магчымасць праявіць сябе ў рабоце з малодшымі. Старшакласнікі традыцыйна вядуць урокі ў дзень самакіравання ў кастрычніку, ладзяць рухомыя перапынкі, дапамагаюць у падрыхтоўцы выхаваўчых мерапрыемстваў.

Для паступлення ў педагагічную ВНУ выпускнікі збіраюць партфоліа – папку, дзе сабраны граматы, дыпломы, публікацыі і іншыя доказы дасягненняў кожнага.

Іна Крышкоўская не думае, што льгота вельмі паўплывае на выбар педагагічнай прафесіі вучнямі. Па яе словах, у першай школе заўсёды быў высокі працэнт паступлення ў педагагічныя ВНУ. Абітурыенты бяруць мэтавыя накіраванні са свайго раёна. Гэта, з аднаго боку, дае больш магчымасцяў паступіць, з іншага, абавязвае маладога дыпламаванага педагога вярнуцца на Вілейшчыну.

– Паступаць на льготных умовах пасля педкласа не так проста, як падаецца, – кажа Іна Віктараўна.

Па-першае, не так проста скончыць школы на сямёркі і васьмёркі. Па-другое, трэба сабраць такое партфоліа, каб яно сапраўды ўразіла прыёмную камісію.

Да таго ж пры паступленні вучань павінны прадставіць разгорнутую рэкамендацыю педагагічнага савета школы. Ды і гутарку пры паступленні ўсё ж трэба прайсці.

**Тым больш, педагог – не тая прафесія, куды варта паступаць толькі дзеля паступлення, лічыць дырэктар.**

Абітурыент, які ідзе ў педВНУ, павінны ўсведамляць, што пасля паступлення яму трэба вучыцца, а пасля працаваць з дзецьмі. А калі такога жадання няма, то навошта патрэбнае паступленне?

Летась самымі папулярнымі спецыяльнасцямі ў педагагічным універсітэце былі спартыўна-турысцкая і спартыўна-педагагічная дзейнасць. Пра найменш папулярныя на сайце ўстановы інфармацыі няма.

### Вучаніца педкласа канца 1990-х: на экзаменах мы перажывалі стрэс

Адкрыццё педагагічных класаў – зусім не новая ініцыятыва. Яны працавалі ў некаторых школах у канцы 1990-х – пачатку 2000-х гадоў.

**Алена Пастарнакевіч**, былая настаўніца з Астравеччыны, вучылася ў такім класе.

Жанчына распавяла, што супрацоўніцтва з педагагічным універсітэтам было тады куды больш цесным. Некалькі разоў на год вучні тагачаснага педкласа ездзілі на начытку лекцый ва ўніверсітэт, а два разы на год здавалі экзамены.

**– Для нас, вучняў з правінцыі, гэта быў стрэс, ды яшчэ які, – прыгадвае жанчына.**

Разам з выпускнымі экзаменамі ў школе вучні маглі здаваць уступны экзамен ва ўніверсітэт. Калі здавалі яго "на выдатна", то аўтаматычна станавіліся студэнтамі педагагічнага ўніверсітэта.

– Я не рызыкнула паступаць такім чынам, – кажа Алена і пайшла на філфак педагагічнага на агульных умовах. – А два хлопцы з майго класа здалі экзамен "на выдатна". Ужо на школьным выпускным яны былі студэнтамі ВНУ. Як жа мы тады ім зайздросцілі!

### Уладзімір Цанунін, настаўнік-пенсіянер: уступныя экзамены павінны быць

На думку настаўніка гісторыі, а цяпер пенсіянера, вілейчаніна **Уладзіміра Цануніна**, пры паступленні на настаўніка ўсё ж павінны быць уступныя экзамены.

– Я ніколі сур'ёзна не адносіўся да тэставання, – кажа Уладзімір Яфімавіч. – Пасля прачытання тых пытанняў у мяне склалася ўражанне, што складальнікі тэстаў ні дня не працавалі ў школах.

Аднак уступныя экзамены павінны быць, перакананы былы настаўнік. А як жа абітурыент пакажа свае веды і здольнасці?




### Колькасць педкласаў (груп) у школах рэгіёна

| Горад | Колькасць педагагічных класаў (груп) |
|---|---|
| Астравец | 2 класы |
| Ашмяны | 2 класы |
| Валожын | 6 груп |
| Вілейка | 5 класаў |
| Маладзечна | 5 класаў |
| Мядзел | 4 групы |
| Смаргонь | 1 група |



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

**ЛІЧБА НУМАРА**

У Беларусі за 16 год стала менш на 6 установаў вышэйшай адукацыі. А студэнтаў стала больш на 31 500

Паводле Белстата

| | 2000 - 2001 навучальны год (на пачатак года) | 2016-2017 навучальны год (на пачатак года) |
|---|---|---|
| Колькасць установаў вышэйшай адукацыі | 57 | 51 |
| Колькасць студэнтаў (у тысячах) | 281,7 | 313,2 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.04 | 20.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8912 | **1,8799** |
| Еўра | 2,0080 | **2,0162** |
| Злоты, 10 | 4,7206 | **4,7360** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3306 | **3,3482** |
| Грыўня, 100 | 7,0423 | **7,0086** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” 12.04 і 19.04** | | |
| Еўра | 1.9900/2.0150 | **1.9900/2.0150** |
| Долар ЗША | 1.8800/1.9000 | **1.8600 /1.8830** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.04 | 19.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,93 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 3,80 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,50** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | **0,65** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,75 | **0,75** |
| Часнок, 1 кг | 6,95 | **6,95** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,95 | **2,60** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,55** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,69** |
| Лімоны, 1 кг | 3,75 | **3,85** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,69 | **2,49** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,75 | **2,75** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,85 | **4,69** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 4,85 | **4,75** |
| Агуркі, 1 кг | 3,95 | **4,20** |
| Перац, 1 кг | 6,95 | **5,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,95 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 6,45 | **5,95** |
| Бананы, 1 кг | 2,49 | **2,49** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,35 | **3,35** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | **0,50** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

# Жительница Молодечно купила макароны и выиграла новый внедорожник в игре «Удача в придачу!»

**Один из трёх разыгранных в 30-м туре игры «Удача в придачу!» новых внедорожников отправился в Молодечно. Удача улыбнулась Виолетте Борисевич, главному бухгалтеру молодечненского предприятия.**

Победительница верила в победу и очень хотела новый автомобиль:

– Мы сразу начали обниматься, радоваться всей семьёй. Впервые мы выиграли такой большой приз. Поверить не могу до сих пор, что удачу мне принесла последняя пачка макарон, которые я забрала с полки. Это невероятная связь: макароны и новый внедорожник. Ездить на новом авто будем вместе с мужем. Хорошенько отметим, когда приедем на своём новом автомобиле домой. Я желаю другим верить и быть в хорошем настроении. Делайте добро, и вам обязательно вернётся что-то хорошее.

Виолетта Борисевич уже получила ключи и документы от нового автомобиля. Представьте себе – всего за несколько дней жизнь может измениться благодаря покупке обычных макарон. Дарить радость, создавать атмосферу праздника для всей семьи, сделать процесс покупки более приятным и удивлять – это то, как торговая сеть «**Евроопт**» проявляет свою заботу о покупателях – не красивыми лозунгами, а настоящими делами.

За всё время игры «Удача в придачу!» жители Минской области стали обладателями более 30 000 призов: тысяч денежных сертификатов, более 140 мобильных устройств, 11 путешествий в Турцию, 6 автомобилей и квартиры в Минске.

Только за предыдущие 29 и 30-туры игры жители Минской области выиграли у «Евроопта» призы на общую сумму около 75 000 долларов в эквиваленте.

Так, игра «Удача в придачу!», захватившая страну, максимально проста и прозрачна, при этом не требует никаких усилий или вложений: покупаешь необходимые товары – имеешь шанс выиграть квартиру, машину и отдых. Бонстики, наделавшие столько шума, – это просто приятное дополнение к покупкам, которое радует детей. А как показала практика, ещё и взрослых! Развитие электронных сервисов «Е-доставка» и «ГиперМолл» – это желание компании сделать доступным весь ассортимент столичных гипермаркетов для жителей даже самых маленьких и отдалённых деревень, при этом предложив наиболее доступные цены на товары.

Даже в мелочах «**Евроопт**» остается верен себе – в автомобилях, которые разыгрываются в игре «Удача в придачу!», установлены, в том числе, и автоматические коробки передач. Ведь большинство покупателей сети – женщины, а дамам удобнее и проще водить машину с такой трансмиссией! И уж тем более проявлением искренней заботы о покупателях стало желание «**Евроопта**» организовать для них достойный летний отдых.

Всю весну и лето в каждом туре игры «Удача в придачу!» 40 счастливчиков будут получать путёвки на двоих на лучшие мировые курорты в лучшие пятизвёздочные отели – в разных странах и на разных морях, и все это с богатой экскурсионной программой. Это действительно возможность для каждого из нас открыть мир. Настоящая забота как раз такая – искренняя и повседневная, как это умеет делать «**Евроопт**».

Победители 30 розыгрыша радуются призам, пакуют чемоданы в Турцию, а тем временем 8 апреля стартовал 31-й тур игры «Удача в придачу!» <http://igra.evroopt.by/game/>, который продлится по 21 апреля включительно. И уже 22 апреля мы узнаем имена обладателей денежных сертификатов на общую сумму 100 000 долларов в эквиваленте, трех новеньких автомобилей Hyundai Creta (уже 73-го, 74-го, 75-го от «**Евроопта**»!) и квартиры в Минске по адресу: ул. Лынькова, 35.

Конечно же, будут разыграны и 40 новых путевок на двоих – на этот раз в Египет!

Сразу 80 счастливчиков в конце мая отправятся на незабываемый отдых в пятизвёздочном отеле Albatros White Beach Resort 5* в Хургаде по системе «Всё включено»! Путешественников ждёт и обширная экскурсионная программа – Луксор, Долина Царей и легендарные пирамиды.

Повстречать удачу легко – стоит совершить покупку в «**Евроопте**», «Е-доставке» или «ГиперМолле», и фортуна может вам улыбнуться. Главное, не забыть «товар удачи».

И не сбрасывать со счетов теорию вероятности: чем больше игровых кодов – тем выше шансы на победу!

Свидетельство № 2954 о государственной регистрации рекламной игры от 21.03.2017 г., выд. Министерством антимонопольного регулирования и торговли Республики Беларусь. Организатор рекламной игры – ООО «ТДИ ПРОМОИВЕНТ». Сроки проведения рекламной игры: с 25.03.2017 г. до 13.06.2017 г. Телефон горячей линии +375 (17) 388-76-76. Правила рекламной игры опубликованы в газете «Комсомольская правда» в Белоруссии» № 55 от 23.03.2017.

ООО «ЕВРОТОРГ». УНП 101168731

## Ад 20 красавіка пачынаецца акцыя ДАІ па бяспечнай перавозцы дзяцей

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад 20 да 25 красавіка не толькі па Маладзечне, але і па ўсёй Мінскай вобласці пройдзе акцыя, дэвізам якой стануць словы: "Дзіця – галоўны пасажыр".

У гэты час супрацоўнікі ДАІ нададуць вялікую ўвагу таму, якім чынам ажыццяўляецца перавозка дзяцей.

З павышанай уважлівасцю будуць патруляваца выезды са школ і дзіцячых садкоў.

– Паклапаціцеся пра тое, каб ваша дзіця знаходзілася ў спецыяльным крэсле або ў бяспечным прыстасаванні для перавозкі, – звярнуў увагу начальнік Маладзечанскай ДАІ **Дзмітры Юркевіч.**

Наталля ТУР.

## Работнікам валожынскага льнокамбіната часткова выплацілі заробак

**ВАЛОЖЫН**

Як высветліў галоўны прававы інспектар працы Мінскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў АПК **Кірыл Азаранка**, сітуацыя на камбінаце склалася няпростая: увесь мінулы год зарплату калектыву, які складаецца са 113 чалавек, выплачвалі з затрымкай ад 1 да 2 месяцаў. Пры гэтым выплаты дзяліліся на 12 частак, а на рукі людзі атрымлівалі па 50-100 рублёў.

Наймальнік парушыў артыкул 73 Працоўнага кодэкса, умовы працоўнага кантракту і нормы калектыўнай дамовы, па якой зарплату неабходна выплачваць два разы на месяц.

Кірыл Азаранка выдаў дырэктару Валожынскага льнокамбіната рэкамендацыю аб выяўленых парушэннях заканадаўства аб працы, і сітуацыю ўдалося вырашыць у дасудовым парадку.

Для гэтага спецыялісты абкама прафсаюза дапамаглі работнікам камбіната падрыхтаваць калектыўныя звароты ў Валожынскі райвыканкам і Маладзечанскі міжраённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Іх падпісалі больш за 40 чалавек.

– На сённяшні дзень патрабаванні работнікаў выканалі часткова, – каментуе Кірыл Азаранка. – Пагасілі запазычанасць па заробку за снежань і студзень. Але адразу ж утварыўся доўг за люты. Мы таксама падрыхтавалі шаблоны заяў у камісію па працоўных спрэчках, створаную на прадпрыемстве, з просьбай пагасіць існуючую запазычанасць па зарплаце. Імі ўжо скарысталіся некалькі чалавек. Пасля падачы заяў у камісію ім цалкам выплацілі заробак за люты.

Паводле belchas.by.



## Угналі машыну ў свайго працадаўцы, кінулі ля абочыны і пайшлі дадому

**МАЛАДЗЕЧНА**

Угналі машыну ў свайго працадаўцы на Маладзечаншчыне, кінулі ля абочыны і пайшлі дадому

Жыхар вёскі Гарадзілава папрасіў знаёмых дапамагчы па гаспадарцы. За працу абяцаў расплаціцца і накрыць стол. Мужчыны пагадзіліся.

Пасля завяршэння ўсіх спраў кампанія на чале з гаспадаром арганізавала застолле. У выніку наймальнік добра захмялеў і пайшоў спаць, пакінуўшы гасцей адных.

– У іх закончылася спіртное, а заканчваць весялосць не хацелася, – распавёў начальнік крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС **Андрэй Мялюк**. – Таму зламыснікі вырашылі ўзяць машыну гаспадара дома і паехаць за дадаткам. Ключы ад іншамаркі былі ў замку запальвання.

Праспаўшыся, уладальнік "Таёты-Кемры" заўважыў прапажу і цягам некалькіх гадзін паспрабаваў яе знайсці. Не атрымалася, і пацярпелы патэлефанаваў у міліцыю.

На дарозе на месца здарэння сышчыкі знайшлі скрадзены аўтамабіль. Відавочцы ўказалі на п'яных мужчын, якія кінулі іншамарку ля абочыны і сышлі.

Аднаго з падазраваных затрымалі ў інтэрнаце, а другога – у сябе дома.

У дачыненні да 32-гадовага непрацуючага жыхара вёскі Палачаны ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле "Угон транспартнага сродку або маламернага судна". За незаконную паездку яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды да пяці гадоў. Таварыш падазраванага будзе сведкам па крымінальнай справе.

Паводле УУС Мінаблвыканкама.

# Злачынства перад Вялікаднем:

## на Маладзечаншчыне мужчына падпаліў пенсіянерку за тое, што не дала грошай на гарэлку

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У суботу, 15 красавіка, пенсіянерка з вёскі Белева разам з роднымі рыхтавалася да Вялікадня.**



Па словах следчага, мужчына падпаліў суседку з другой запалкі.

У дом зайшоў 32-гадовы мясцовы жыхар і пачаў прасіць у жанчыны грошай на гарэлку. Яму адмовілі.

Мужчына выйшаў, але ў хуткім часе вярнуўся. Ён абліў пенсіянерку лёгкаўзгаральнай вадкасцю і падпаліў запалкай.

Гэта ўбачыла сямігадовая ўнучка гаспадыні. Яна паклікала сваю маму, дачку гаспадыні, якая патушыла полымя да прыезду МНС.

Пажару ў доме не было. Абгарэла адзенне жанчыны і крыху коўдра, якой тушылі полымя.

У жанчыны апёкі 11% цела. Яна ў бальніцы.

Фігуранта затрымалі. У той жа дзень пацярпелая жанчына дала паказанні.

У раённым аддзеле Следчага камітэта завялі крымінальную справу па артыкуле "Замах на забойства". Вінаватаму пагражае ад васьмі гадоў пазбаўлення волі.

Пра гэта расказаў начальнік следчага аддзялення Маладзечанскага РАСК падпалкоўнік юстыцыі **Віталь Радзюк**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Кіроўца падвёз жыхароў Вілейшчыны. А "ў падзяку" пазбавіўся планшэта

**ВІЛЕЙКА**

Пачалася гэта гісторыя ранкам 3 красавіка. Мінчанін вяртаўся з працы з Масквы. На дарозе ўбачыў двух хлопцаў, якія галасавалі.

Кіроўца вырашыў падвезці іх, балазе яны таксама накіроўваліся ў беларускую сталіцу.

– У Мінску па просьбе хлопцаў кіроўца падвёз іх да чыгуначнага вакзала, пасля чаго з'ехаў. Калі прыехаў дадому, убачыў, што ў чахле, які ляжаў на заднім сядзенні аўтамабіля, няма планшэта. Мінчанін неадкладна звярнуўся па дапамогу ў міліцыю, – паведаміла 10 красавіка афіцыйны прадстаўнік Першамайскага РУУС Мінска **Яна Дашкевіч**.

Супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку раённага ўпраўлення ўстанавілі асобы спадарожнікаў. Імі аказаліся двое жыхароў Вілейскага раёна. Неўзабаве маладых людзей затрымалі.

Адзін з хлопцаў прызнаўся ў крадзяжы планшэта. На 22-гадовага маладога чалавека да гэтага ўжо была заведзена крымінальная справа за аналагічнае правапарушэнне. Яго знаёмы нават не падазраваў, што таварыш скраў планшэт.

Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж. Хлопцу пагражае да чатырох год пазбаўлення волі.

Аддзел інфармацыі.

## Крадзеж у вілейскай сталовай: зайшоў паесці і выцягнуў грошы з касы

**ВІЛЕЙКА**

У абедзенны час у вілейскую сталовую ў цэнтры горада зайшоў малады чалавек.

Убачыўшы, што ў пэўны момант касірка адышла ад касы, а побач няма людзей, ён выцягнуў з касы 292 рублі і ўцёк.

Пра крадзеж касірка паведаміла ў міліцыю.

У хуткім часе супрацоўнікі міліцыі затрымалі 23-гадовага хлопца, якога апісалі сведкі. Гэта мясцовы жыхар, які нідзе не працаваў.

У Следчым камітэце ўзбудзілі крымінальную справу.

Пра гэта расказаў начальнік вілейскага аддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Згарэў на печцы: на пажары ў Смаргонскім раёне загінуў мужчына

**СМАРГОНЬ**

Пра пажар у вёсцы Казяняты Жодзішкаўскага сельсавета паведамілі 14 красавіка каля 23:00.

Згарэў дах, сцены і маёмасць.

Выратавальнікі знайшлі на печцы труп 49-гадовага мужчыны.

Прычыну ўстанаўліваюць. Верагодна, здарэнне магло адбыцца з-за неасцярожнасці падчас курэння.

Паводле сайта МНС.

## У Радашкавічах уначы пешаход трапіў пад "Таёту"

**МАЛАДЗЕЧНА**

Каля 3:30 ночы 16 красавіка ў гарадскім пасёлку Радашкавічы 31-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Таёта-Авенсіс" і наехаў на 35-гадовага пешахода, які перабягаў праезную частку па-за пешаходнымі пераходам.

У выніку ДТЗ пешаход з атрыманымі траўмамі шпіталізаваны. Пацярпелы не быў абазначаны святлоадбівальнымі элементамі.

Паводле ДАІ Мінскай вобласці.

## Пацярпелую пасажырку пакінуў замярзаць на шашы Маладзечна-Ілья

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 15 красавіка пасля трох гадзін ночы.

На трэцім кіламетры шашы Маладзечна-Ілья 24-гадовы кіроўца аўтамабіля "Аўдзі" не справіўся з кіраваннем на павароце і з'ехаў у кювет. Тут машына перакулілася ў канаву з вадой.

32-гадовая пасажырка атрымала траўмы. У час здарэння жанчына не была прышпіленая рамянямі бяспекі.

Пасля ДТЗ кіроўца выклікаў "хуткую дапамогу", а сам пайшоў дамоў.

Супрацоўнікі ДАІ знайшлі яго па месцы жыхарства ў нецвярозым стане.

Пацярпелую даставілі ў бальніцу з цяжкімі траўмамі і пераахаладжэннем арганізма.

Паводле БелТА.

## Збіў маці на 8 Сакавіка: завялі крымінальную справу на жыхара Куранца

**ВІЛЕЙКА**

47-гадовы жыхар Куранца некалькі разоў збіваў сваю 68-гадовую маці.

6 красавіка пасля праверкі ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "Катаванне".

У верасні 2014 года, лістападзе 2015 года і сёлета 8 сакавіка сын збіваў сваю маці.

Па артыкуле мужчыну пагражае арышт да трох месяцаў, абмежаванне або пазбаўленне волі на гэты ж тэрмін.

Паводле УУС Мінаблвыканкама.

# Дзеці не бачацца з мамай тыднямі,

## чуюць яе голас толькі па тэлефоне – жанчына ў бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА

**У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнулася Вольга Рухля. Яе старэйшай дачцэ, 32-гадовай Алене, патрэбная дапамога.**

– Летась у ліпені яна трапіла ў цэнтральную раённую бальніцу ў Маладзечне, – расказвае жанчына. – Там ніяк не маглі вызначыць, у якое аддзяленне пакласці, бо немагчыма было дакладна паставіць дыягназ. Накіравалі ў гастрааддзяленне. У ім прабыла ндоўга – адправілі ў Бараўляны, каб пацвердзіць мяркуемы дыягназ.

У пачатку жніўня дыягназ пацвердзілі – апластычная анемія цяжкай ступені. Гэта асаблівая група захворванняў сістэмы крыві, якая характарызуецца зніжэннем колькасці ўсіх клетак крыві без прыкмет пухліннага працэсу.

**Захворванне сустракаецца ў 6-13 выпадках на адзін мільён насельніцтва ў год.**

Хварэць могуць як мужчыны, так і жанчыны любога ўзросту, але часцей пасля 50 гадоў.

Падчас хваробы ў чалавека зніжаецца ўзровень гемаглабіну. Як вынік, чалавек адчувае слабасць, галавакружэнне, змяншаецца працаздольнасць, перыядычна страчваецца прытомнасць, шум у вушах, колючыя болі ў груднэй клетцы. Павышаецца кровачывасць, зніжаецца колькасць лейкацытаў, якія выконваюць абаронныя функцыі.

### Дзеці не могуць стаць донарамі

Хутка сям'і паведамілі, што неабходны донар і што трэба ехаць у Бараўляны, адтуль у Мінскую клініку трансплантацый. Там дзецям Алены – сямігадовай **Віялеце** і пяцігадоваму сыну **Дзянісу** – зрабілі неабходныя аналізы. Аднак ствалавыя клеткі донараў і хворай не супадаюць.



Фота з архіва Вольгі РУХЛЯЙ

Калі Алена трапіла ў бальніцу, дактары не маглі дакладна паставіць дыягназ, не ведалі, у якое аддзяленне накіраваць. У Бараўлянах паставілі дыягназ апластычная анемія цяжкай ступені.

Летась у кастрычніку Алене далі першую групу інваліднасці.

Ад жніўня і да цяперашняга часу жанчына часта знаходзіцца ў бальніцы ў Бараўлянах, як мінімум па два тыдні. Ёй робяць пераліванне крыві, такім чынам павялічваюць гемаглабін і трамбацыты, даюць таблеткі.

– Без гэтых працэдур Алена можа знаходзіцца дома каля двух-трох тыдняў, – расказвае маці. – Ёй выпісалі лекі, якіх няма ў Маладзечне, часта ездзім па іх у Мінск.

Аднак нават з дапамогай таблетак цяжка падтрымліваць гемаглабін і трамбацыты ў норме. Таму Алена большую частку часу знаходзіцца ў бальніцы.

**– Унукі часова жывуць у нас з сярэдзіны лета, – расказвае Вольга Рухля. – Унучка Віялета ходзіць у другі клас, а ўнук Дзяніс заканчвае садок. Дзеці часта не бачацца з мамай праз тое, што яна ў бальніцы. Толькі чуюць яе голас па тэлефоне.**

### На лячэнне трэба шалёныя грошы

Па інваліднасці жанчына атрымлівае каля 200 рублёў, на дзяцей па 80 рублёў. Гэтых грошай часта не хапае на лекі, а на лячэнне тым больш складана назбіраць. Таму сям'я просіць дапамогі ва ўсіх неабыякавых людзей.

Алену ўнеслі ў базу дадзеных для пошуку донара. На гэта трэба 40 тысяч долараў, а на лячэнне і аднаўленне яшчэ больш – такія грошы вельмі цяжка знайсці. Таму сям'я ў 2016 годзе адкрыла дабрачынны рахунак.

Алене прапанавалі прайсці лячэнне ў клініцы Асута ў Ізраілі. Аднак расцэнкі на лячэнне для сям'і проста непад'ёмныя.

Донарская перасадка коснага мозгу каштуе 210 тысяч долараў, 17 тысяч долараў – пошук донара.

Сваяцкая перасадка коснага мозгу – 155 тысяч долараў, 17 тысяч долараў – аналізы на сумяшчальнасць.

Уласная перасадка коснага мозгу – 105 тысяч долараў, 26 тысяч долараў – лекавыя прэпараты.

Аплата ўсіх працэдур адбываецца па фіксаваных цэнах бальніцы без нацэнак і пасярэднікаў. Арганізацыйныя паслугі, суправаджэнне супрацоўнікамі каардынацыйнага аддзела ў бальніцы, паслугі перакладчыка, уключаючы сінхронны пераклад, кругласутачная інфармацыйная падтрымка – бясплатна.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

### Як дапамагчы грашыма

Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў філіяле №601 ААТ "ААБ Беларусбанк" у Маладзечне па вуліцы Прытыцкага, 13

**Беларускія рублі**

Транзітны рахунак №3819382105556 на дабрачынны рахунак №000037 у філіяле №601/Аперацыйная служба

**Еўра**

Транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000110 у філіяле №601/Аперацыйная служба

**Долары ЗША**

Транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000110 у філіяле №601/Аперацыйная служба

**Расійскія рублі**

Транзітны рахунак №3819382108407 на дабрачынны рахунак №000027 у філіяле №601/Аперацыйная служба

Прызначэнне плацяжу – збор сродкаў на лячэнне і рэабілітацыю Алены Аляксандраўны Рухлі.



Фота yandex.by

# Як будуць хадзіць аўтобусы на Радаўніцу

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі аўтапарк арганізуе дадатковы маршрут на могілкі на Радаўніцу.**

Аўтобус будзе ісці ад плошчы Старое Места да Лазаўца.

### 21-24 красавіка

Ад Старога Места аўтобусы будуць адпраўляцца ад школы №5 у 10:00, 10:50, 11:40, 12:30, 13:20, 14:10, 15:00, 15:50.

Ад прыпынку "Могілкі Лазавец" аўтобусы будуць адпраўляцца ў 10:25, 11:15, 12:05, 12:55, 13:45, 14:35, 15:25, 16:15.

### Гарадскі транспарт

22-25 красавіка – па графіку выхаднога дня.

### Прыгарад

21 красавіка – па раскладзе пятніцы

22 красавіка – па раскладзе суботы

23-25 красавіка – па раскладзе нядзелі.

### Міжгорад

Аўтобусы па маршруце Маладзечна – Мінск будуць хадзіць усе дні без змяненняў.

Аўтобусы па маршруце Маладзечна – Бараўляны ад 22 да 25 красавіка хадзіць не будуць.

### 25 красавіка

На Радаўніцу ад 9:00 да 16:40 будуць хадзіць дадатковыя аўтобусы да Лазаўца з інтэрвалам кожныя 12 хвілін. Пасадка будзе праходзіць каля школы №5.

Аўтобусы па рэгулярным **маршруце №5** на ўчастку ад Старога Места да вуліцы Вялікасельскай будуць хадзіць праз АЗС "Юнайтэд Компані".

Аўтобусы па рэгулярным **маршруце №6** будуць хадзіць па графіку рабочага дня (тры аўтобусы), маршрут будзе працягнуты да прыпынку "Вёска Насілава".

ВІЛЕЙКА

Па словах вядучага інжынера аддзела перавозак Вілейскага аўтапарка **Тамары Субач**, на Радаўніцу, 25 красавіка, пусцяць тры дадатковыя аўтобусы. Два з іх – па маршруце №3 Аранжэрэя – вуліца Веданы і адзін – па маршруце №5 Макаўе – вуліца Валынца.

Дадатковыя аўтобусы на маршруце №3 пачнуць працаваць ад 09:30, па маршруце №5 – ад 09:10. У 15:00 дадатковыя аўтобусы скончаць працу.

СМАРГОНЬ

25 красавіка аўтапарк №17 арганізуе дадатковыя рэйсы па маршруце Чыгуначны вакзал – мікрараён Усходні – цэнтральныя могілкі (вуліца Камінскага). Маршрутнае таксі будзе ездзіць з усімі гарадскімі прыпынкамі.

Адпраўленне ад прыпынку "Чыгуначны вакзал": 09:50,10:40, 11:30, 12:35, 13:25, 14:15, 15:05, 15:55.

Адпраўленне ад прыпынку "Мікраraён Усходні": 10:05, 10:55, 11:45, 12:50, 13:40, 14:30, 15:20, 16:10.

Адпраўленне ад прыпынку "Цэнтральныя могілкі": 10:15, 11:05, 11:55, 13:00, 13:50, 14:40, 15:30, 16:20.

АСТРАВЕЦ

У рабоце аўтапарка №4 будуць наступныя змяненні.

25 красавіка па маршруце Астравец – Гродна-2 будзе дадатковы рэйс адпраўленнем з Астраўца ў 14:30.

Дадатковыя рэйсы будуць па маршруце Астравец – Слонім 25 і 29 красавіка.

Па маршруце Астравец – Мінск аўтобус будзе курсіраваць 29 красавіка замест 28.

Замест 24 красавіка аўтобус па маршруце Астравец – Масцяны будзе курсіраваць 25 і 29 красавіка.

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле будуць адпраўляцца аўтобусы ад цэнтра і ад бальніцы ў 9, 10, 11, 12 і 14 гадзін.

Як адзначыла кіраўніцтва аўтапарка, пры вялікім наплыве людзей дадуць дадатковыя аўтобусы.

ВАЛОЖЫН, АШМЯНЫ

На момант выхаду газеты ў друк не было вядома, як будзе працаваць грамадскі транспарт на Радаўніцу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як вы глядзіце на тое, каб правесці ноч у бібліятэцы?

МАЛАДЗЕЧНА

**У пятніцу, 21 красавіка, бібліятэка "Верасок" будзе працаваць да 22:00.**

Такім чынам, маладзечанская бібліятэка далучыцца да міжнароднай акцыі "Бібліяноч".

Усе мерапрыемствы, якія запланаваныя на гэты вечар, будуць насіць агульную назву "З кнігай па ўсім свеце за адну ноч".

Бібліятэкарка **Таццяна Закрэўская** падзялілася з "Рэгіянальнай газетай" праграмай бібліяночы.

**Пляцоўка "Тэрыторыя чытання"**

18:00-22:00
Вечар даравання чытацкай запазычанасці на абанеменце цэнтральнай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча.
19:00-21:00
"З песняй па жыцці" – рэтра-вечар
20:00-21:00
Выступленне этнаграфічнага клуба "Кола"
18:00-22:00
"З кнігай па свеце" – літаратурны дыліжанс

**Пляцоўка "Замежны калейдаскоп"**

16:00-17:00
Чытаем і гуляем на англійскай мове з дашкольнікамі
17:00-18:30
"Падарожжа з Дораці ў краіну Оз" – інтэрактыўная гульня з элементамі англійскай мовы
18:30-20:00
"Нямецкая мова" – гульнявая праграма з Мірыям і Тэа для падлеткаў
20:00-22:00
"Выкарыстанне гаджэтаў у развіцці тэхнічнай творчасці" – праграма для ўсёй сям'і

**Пляцоўка "У глыбінях космасу"**

16:00-19:00
"У глыбінях космасу"– мабільны планетарый
18:00-22:00
☆"Сусвет цудаў" – планета майстроў (майстар-клас з раённым цэнтрам рамёстваў)
☆"Экспедыцыя па Сонечнай сістэме" – касмічны квэст
☆"Зорная гадзіна"– фотазона
☆"Сусвет загадак" – касмічная латарэя
☆"Якую кнігу ты возьмеш з сабой у космас" – зорная калекцыя
☆"У госці да іншапланецян" – галерэя малюнкаў

**Пляцоўка "Па дарозе ведаў падарожнічай з намі"**

18:00-22:00
✔"Хутчэй за ўсё падарожнічаць па кнігах" – выстава з чамадана
✔"Вітаю, свет! Вітаю, сябар!" – гульнявое асарці
✔"Кнігі-караблі падарожжаў" – віктарынны express
✔"Кнігі-караблі падарожжаў" – віктарынны кактэйль
♫ "Музыка без межаў" – кніжная выстава
♫ "Музычная шкатулка" – гульня-віктарына
✔"Час геаграфічных ведаў і адкрыццяў" – конкурсная праграма
✔"Ад манаскай келлі да станка Гутэнберга" – кніжны круіз
✔"Эрудзікон" – літаратурна-геаграфічная латарэя
✔Інфармацыйна-рэкламная акцыя турагенцтва.

Усіх ахвотных чакаюць ў бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок" па адрасе: Вялікі Гасцінец, 121-б.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вечар памяці Вікторыі Чырвонцавай адбудзецца ў Маладзечне


Фота zviazda.by.

**Стваральніца маладзечанскай школы выцінанкі Вікторыя Чырвонцава.**

МАЛАДЗЕЧНА

"Крылы натхнення" – так будзе называцца вечар, прысвечаны памяці народнага майстра Беларусі **Вікторыі Чырвонцавай**.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала **Лізавета Чырвонцава**.

Вечарына адбудзецца ў выставачнай зале Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа.

Адрас каледжа: Вялікі Гасцінец, 52.

Пачатак а 16 гадзіне

**Аддзел інфармацыі.**


Фота Яўгена КАРОСЦІКА.

**Каманда "Рэгіянальнай газеты" – гэта карэспандэнт Наталля Тур (з дыпломам), а таксама нашы пазаштатныя аўтары і героі публікацый: Яўген Каросцік, Юлія Ракоўская, ніжні рад, Уладзімір Зянюк, пасярэдзіне, Уладзімір Палуха, злева, Арцём Курэц і Максім Драздоўскі, верхні рад.**

# "Прасцей прастага": не выйграем розумам, дык возьмем шоу

МАЛАДЗЕЧНА

**12 сакавіка ў Маладзечне ўзяла старт новая інтэлектуальная віктарына "Прасцей прастага".**

Хаця віктарына толькі набірае абароты, але 18 мая ўжо адбудзецца першы фінал.

Каманда "Рэгіянальнай газеты" стала ўдзельніцай чацвертай адборачнай гульні.

Так бы мовіць, паглядзела на ўсё знутры і пасля пагутарыла з вядучай **Маргарытай Шытыкай**, каб тая раскрыла таямніцы шоу, якія простым удзельнікам недаступныя.

Гульня "Прасцей прастага" складаецца з пяці тураў.

Першы – інтэлектуальная разміка, якая складаецца з 20 пытанняў з розных галін ведаў. Напрыклад, у нашай гульні трэба было адказаць на пытанні: сталовымі прыборамі з якога металу загадаў Напалеон карыстацца сваім самым дарагім гасцям або што прыдумалі жанчыны, якіх вельмі часта цалавалі ў лоб.

Другі конкурс – зноў 20 пытанняў, якія на гэты раз тычыліся Беларусі і гісторыі Беларусі.

Напрыклад, у каго маглі пераўтварацца неўры або які горад узнік на месцы вёскі Шацілкі ці хто аўтар "Першага чытання для дзетак беларусаў".

У трэцім конкурсе трэба было як мага больш дакладна адказаць, якой колькасці беларускіх жанчын падабаюцца мужчыны з доўгімі валасамі ці колькі мужчынаў штодзённа карыстаюцца крэмам пасля галення.

Апошні конкурс нагадваў усім вядомую гульню "Кракадзіл". Трэба было інсцэніраваць вядомыя фільмы.

> **Хто б мог падумаць, што ў хлопца з нашай каманды настолькі выдатна атрымаецца паказаць Тэрмінатара, што група нашай падтрымкі адгадае фільм на першай секундзе.**

Апошні конкурс быў разлічаны так, што тое, што загадваюць камандзе, павінны адгадаць балельшчыкі каманды.

На жаль, але наша каманда ў гэтым пытанні не спрацавала і нас падтрымлівалі толькі некалькі нашых сяброў.

Чаго не скажаш пра каманду-саперніцу.

Гулялі мы супраць маладзечанскіх дактароў. У іх група падтрымкі спрацавала на ўра, але ўсё ж хочацца заўважыць, што нават са сцэны відаць, як балельшчыкі каманды падглядвалі правільныя адказы ў інтэрнэце са сваіх мабільных тэлефонаў.

І вядучая Маргарыта Шытыка таксама больш чула падказкі дактароў. Яшчэ б, столькі галасоў!

Аднак хочацца спадзявацца, што на фінале гэта недарэчнасць выправіцца і балельшчыкаў будуць пытаць па чарзе.

У першым сезоне гульні "Прасцей прастага", акрамя каманды "Рэгіянальнай газеты" і ЦРБ, паспрабавалі свае сілы калектывы "Камунальніка", "Беларусбанка", Маладзечанскіх электрасетак, камбіната хлебапрадуктаў.

– Хаця ідэя інтэлектуальнай гульні з'явілася ў маёй калегі **Ніколь Грыгаран**, – расказвае Маргарыта Шытыка, – але "карпаратыўнае" адценне надала гульні я. Вельмі хацелася, каб людзі, якія працуюць разам, мелі магчымасць адпачываць, знаёміцца. Ды і веды ў гульні – не галоўнае. Галоўнае, шоу, эмоцыі, адрэналін.

> **Фінал гульні запланаваны на 18 мая. У ім паспаборнічаюць ажно чатыры каманды.**

– Правілы крыху зменяцца, але што чакаць камандам, пакуль сюрпрыз. Адзінае, што магу сказаць, цікава будзе не толькі гледачам, але і ўсім у зале. Таму я запрашаю ўсіх адкласці свае справы ў чацвер, 18 мая, і прыйсці, каб падтрымаць каманду, якая спадабаецца вам больш за ўсё. Уваход на гульню вольны.

А мы, карыстаючыся магчымасцю, хочам запрасіць маладзечанцаў стаць заўзятарамі каманды "Рэгіянальнай газеты". У гульні наша каманда завецца "Бабры". Не пераблытайце.



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

# Жанчына шукае былую дзяўчыну брата, каб аддаць спадчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Жанчына папрасіла знаёмую са Смаргоні Дар'ю Ручыц дапамагчы адшукаць былую дзяўчыну свайго брата і магчымых спаткаемцаў, каб пакінуць ім спадчыну, бо сама не мае блізкіх сваякоў.**

Прыблізна ў 80-х гадах **Валеры Кітуашвілі** служыў у Беларусі з **Юрыем Рыбаковым**. Мужчыны сябравалі. У Валерыя была таксама дзяўчына. Пра яе толькі вядома, што звалі **Валянцінай**. Яна сябравала з сям'ёй Рыбаковых.

Сястра Валерыя хоча знайсці Валянціну праз сям'ю Рыбаковых. Магчыма, у жанчыны ёсць дзіця ад Валерыя. Сястра Валерыя хоча пакінуць ёй спадчыну, бо не мае блізкіх, а Валеры памёр.

Арыенцірам для пошукаў можа стаць той факт, што ад сям'і Рыбаковых Валерыю ў Грузію 1 лютага 1985 года прыйшоў ліст. На канверце быў напісаны зваротны адрас: 222336, Мінская вобласць, Маладзечанскі раён, п/а Гарадок, сяло Ляснічка. Адпраўіцель – Рыбакова Наталля.

Магчыма, гэты факт дапаможа знайсці сям'ю Рыбаковых і былую дзяўчыну Валерыя – Валянціну.

Арыгіналы фота і лісты былі накіраваныя ў праграму "Чакай мяне", аднак адказу пакуль не было.

**Аддзел інфармацыі.**



Так выглядала Валянціна, жанчына, якую шукаюць, прыблізна 40 гадоў таму.

# Чыгунка – зона павышанай небяспекі

**Чыгуначныя пуці з'яўляюцца небяспечнай зонай, бо заўсёды ёсць пагроза наезду рухомага саставу на людзей. Знаходзячыся на пуцях, трэба быць асабліва ўважлівым, захоўваць усе патрабаванні бяспекі, бо парушэнне іх можа прывесці да няшчаснага выпадку.**

Штогод на чыгунцы нашай рэспублікі гінуць і атрымліваюць калецтвы людзі.

**За 2016 год** на чыгуначных пуцях Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі траўмаваныя 62 чалавекі (супраць 64 у 2015 годзе). Колькасць пацярпелых склала 62 чалавекі (супраць 65 у 2015 годзе), з іх смяротна траўмаваныя 45 чалавек (супраць 45 у 2015 годзе). З 62 выпадкаў траўмавання грамадзян 22 адбыліся на перагонах, 40 – на станцыях і прыпынычных пунктах.

За 2016 год адбылося 5 выпадкаў электратраўмавання грамадзян на аб'ектах чыгуначнага транспарту, што складае 8% ад усіх зафіксаваных выпадкаў.

**З 62 выпадкаў** траўмавання грамадзян – 17 адбылося ў перыяд часу ад 6:00 да 12:00, 13 выпадкаў – ад 12:00 да 18:00, 24 выпадкі – ад 18:00 да 00:00 і 8 выпадкаў – ад 00:00 да 6:00.

5% пацярпелых – гэта людзі ва ўзросце да 18 гадоў, 19% пацярпелых – гэта людзі ва ўзросце ад 19 да 30 гадоў, 18% – звыш 61 года, 34% – ад 41 да 60 гадоў, 24% – ад 31 да 40 гадоў.

**За 12 месяцаў** 2016 года зафіксаваны тры выпадкі траўмавання непаўналетніх грамадзян, што складае 4,8% ад агульнай колькасці.

**У 2016 годзе** на Маладзечанскай дыстанцыі пуці значнае павелічэнне выпадкаў траўмавання грамадзян адбылося на перагонах, г.зн. у тых месцах, дзе складана арганізаваць пастаянны кантроль за хаджэннем па пуцях староннiх людзей.

**Аналіз** няшчасных выпадкаў з людзьмі, якія не звязаныя з вытворчасцю, паказаў, што колькасць няшчасных выпадкаў застаецца высокай. А гэта выклікае сур'ёзную трывогу за жыццё і здароўе людзей, якія карыстаюцца чыгуначным транспартам ці жывуць паблізу чыгункі.

**Каб не стаць ахвярай няшчаснага выпадку, кожны чалавек павінны ведаць і выконваць наступныя ПРАВІЛЫ БЯСПЕКІ на чыгуначным транспарце:**

1. Пераходзіць чыгуначныя пуці па пешаходных мастках, насцілах, а таксама ў месцах, дзе ўстаноўленыя ўказальнікі "Пераход праз пуці".

2. Калі пераходзіце пуці па пешаходным насціле, перш праканайцеся, ці не рухаецца цягнік, лакаматыў.

3. Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва спыніцеся, прапусціце іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці рухомага саставу на суседніх пуцях, прадоўжыце пераход.

4. Калі падыходзіце да чыгуначнага пераезда, то ўважліва сачыце за светлавой і гукавой сігналізацыяй. Перш чым перайсці пуці, пераканайцеся, ці не набліжаюцца да пераезда цягнік, лакаматыў.

5. Садзіцца ў вагоны і выходзіць трэба толькі пасля поўнага спынення цягніка, з боку пасадачнай платформы.

**ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

1. Хадзіць па чыгуначных пуцях.
2. Пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад транспартам, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
3. Пераходзіць праз пуці адразу ж пасля праходу цягніка аднаго напрамку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка на сустрэчным напрамку.
4. Падлазіць пад вагоны і пераходзіць па счэпных прыборах вагонаў.
5. На электрыфікаваных участках набліжацца да не абгароджаных правадоў або частак кантактнай сеткі і паветраных ліній электраперадач (ВЛ).
6. Пакідаць дзяцей без нагляду на пасадачных платформах і ў вагонах.
7. Перавозіць у вагонах лёгкаўзгаральныя і выбуховыя рэчывы.
8. Курыць у вагонах (у тым ліку ў тамбурах) прыгарадных цягнікоў, ва неўстаноўленых для курэння месцах у цягніках мясцовага і далёкага следавання.

**Паважаныя чытачы газеты! Будзьце ўважлівыя і цярплівыя пры сутыкненні з чыгункай і яе абуладкаваннем. У гэтым залог вашай бяспекі і бяспекі вашых родных і блізкіх людзей.**

Маладзечанская дыстанцыя пуці.
УНП 600199567

# Уладзімір Кажамяка з Ілы выдаў кнігу пра родную Мсціслаўшчыну

ВІЛЕЙКА

**“Старожня і Сычоўка” назваў чарговую кнігу краязнаўца, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, аўтар “Рэгіянальнай газеты” Уладзімір Кажамяка.**

Калі вы, як і я, зусім слаба ведаеце родную для пісьменніка Магілёўшчыну, удакладню, што Старожня і Сычоўка – гэта назвы вёсак у Магілёўскай вобласці на Мсціслаўшчыне. У Старожні ў 1939 годзе нарадзіўся будучы пісьменнік. А Сычоўка знаходзілася побач.

Пачынаючы з 2009 года, Уладзімір Кажамяка выдаў тры краязнаўчыя кнігі “Ходзіць вёскамі сіняе лета”, “Не пакідаюць нас белыя лебедзі” і “Цяпер і мне ўспомніць можна”.

Большая частка аповеда у гэтых кнігах прысвечаная Вілейшчыне і Ільяншчыне. Гэта не здзіўляе. Ад 1970-х гадоў жыццё пісьменніка звязанае з Ільёй. Тут ён працаваў выкладчыкам і дырэктарам Ільянскага сельгастэхнікума, педагогам у мясцовай школе. Тут жыве і сёння.

У кнізе “Цяпер і мне ўспомніць можна” ёсць некаторыя творы пра родную Магілёўшчыну. А вось новая праца пісьменніка – кніга “Старожня і Сычоўка” – цалкам прысвечаная родным мясцінам.

– Думкі пра выданне чарговай кнігі пад назвай “Старожня і Сычоўка” не пакідалі мяне з таго моманту, як пабачыла свет мая кніга “Цяпер і мне ўспомніць можна”, а па праўдзе кажучы, яшчэ раней, – прызнаецца Уладзімір Сцяпанавіч.

Ужо тады пісьменнік збіраў матэрыял, шукаў новыя звесткі, дапаўняў раней напісаныя тэксты. Дапісаў вершаваныя казанні “Паміж Дуброўкай і Бутокай”, якімі адкрываецца кніга.

Знайшоў магчымасць з’ездзіць у родную Старожню, дзе жыве мала людзей. Пабываў і ў суседняй Сычоўцы, у якой ужо ўвогуле ніхто не жыве.

У кнізе Уладзімір Кажамяка непакоіцца пра тое, што Старожні хутка не стане зусім, клапоціцца пра археалагічныя даследаванні шведскіх курганоў і магіл часоў Паўночнай вайны на Мсціслаўшчыне, узрушаецца, як знявечыла родныя мясціны меліярацыя.

Распавядае пра бацькоў, бабу і дзеда, шматлікіх землякоў. Згадвае студэнцкія гады у Горках, дзе вучыўся ў сельгасакадэміі ў 1960-х гадах, і аднагрупнікаў, з якімі да сённяшняга дня падтрымлівае сувязь.

І ўсё ж нават у кнізе, прысвечанай родным мясцінам і землякам, без Вілейшчыны нiяк. Вельмі шмат, па ўсім відаць, у жыцці і творчасці пісьменніка звязана з вілейскім краем. Напрыклад, знаёмства з прафесарам і акадэмікам, ураджэнцам Астравеччыны **Адамам Мальдзісам.**

Некалькі год таму Адам Восіпавіч прыязджаў на сустрэчу ў ільянскую школу. З гэтага часу і пачалося знаёмства пісьменнікаў. Адам Мальдзіс неаднаразова добра выказваўся пра творчасць Уладзіміра Кажамякі. Даў яму рэкамендацыю на ўступленне ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

З кнігі даведаемся, што не чужая пісьменніку і вёска Вязынь . Тут у пачатку 2000-х гадоў ён працаваў у школе настаўнікам нямецкай мовы. Добрым словам згадвае мясцовых літаратараў з Вілейкі **Сяргея Макарэвіча** і **Усевалада Сцебураку**, паэта з Ілы **Міколу Кутаса**, дырэктара ільянскай школы **Ігара Юшко**, галоўнага доктара ільянскай бальніцы **Юрыя Панятоўскага**, краязнаўца і вайскоўца з Латыгалі **Аляксандра Плавінскага**, пісьменніка **Леаніда Левановіча**, які жыве на хутары Пятрылава на Вілейшчыне.

Завяршае кнігу раздзел “Фотаздымкі паглядзім разам” – тое, што трэба для сучаснага пакалення візуалаў. Фотаздымкаў шмат. Яны розныя па часе і па сюжэтах. Тут сябры і знаёмыя, блізкія і далёкія сваякі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота lit-bel.org

**Уладзімір Кажамяка на з’ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

# АСЦЯРОЖНА! ЛІНІІ ЭЛЕКТРАПЕРАДАЧ!

**Ахова ліній электраперадач ад пашкоджанняў з’яўляецца важнай дзяржаўнай справай.**

Пашкоджанні выклікаюць перарывы ў забеспячэнні электраэнергіяй прамысловых і сельскагаспадарчых спажыўцоў, населеных пунктаў, што наносіць вялікую шкоду народнай гаспадарцы і можа прывесці да гібелі людзей.

Маладзечанскія электрычныя сеткі папярэджваюць кіраўнікоў калгасаў, арганізацый, прадпрыемстваў і грамадзян аб неабходнасці выканання “Правілаў аховы электрычных сетак да 100 В і вышэй”.

Парушэнне правілаў вытворчасці работ побач з правадамі ліній электраперадач, работа на трасах паветраных ліній (ПЛ) стрэлавых кранаў, сельскагаспадарчых машын і механізмаў, лесанарыхтоўчых работ, узвядзенне разнастайных аб’ектаў без ведама электрасетак, накіды на правады, наезды на апоры ліній электраперадач аўтатранспарту і сельгасмашын, датыканне да правадоў высокагабарытнымі механізмамі, прастрэлы ізалятараў, падзенне дрэў на правады і іншыя прычыны прыводзяць да вялікай колькасці пашкоджанняў ліній электраперадач.

Для захаванасці і стварэння нармальных умоваў эксплуатацыі электрычных сетак ствараюцца ахоўныя зоны. Ахоўная зона паветраных ліній электраперадач устанаўліваецца ўздоўж паветраных ліній электраперадачы ў выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаваных вертыкальнымі плоскасцямі, адлеглымі па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры неадхіленым іх становішчы на адлегласці: для лініі напружаннем 35 кВ – 15 м, 110 кВ – 20 м, 220 кВ – 25 м, 330 кВ – 30 м.

Зямельныя ўчасткі, якія ўваходзяць у ахоўныя зоны электрычных сетак, не адбіраюцца ў землекарыстальнікаў і выкарыстоўваюцца імі для правядзення сельскагаспадарчых і іншых работ з абавязковым выкананнем патрабаванняў Правілаў аховы электрычных сетак.

## У ахоўных зонах ПЛ забараняецца:

– лавіць рыбу
– працаваць у пралётах ПЛ, якія маюць абарваныя правады, а таксама набліжацца да апор, якія маюць абарваныя правады і падвяргаюцца аднабаковаму цяжэнню, а таксама да саміх абарваных правадоў на адлегласць 20 м;
– набліжацца да апор ПЛ, якія маюць прыкметы замыкання на зямлю (разбураны ізалятар, абарваная вязка, вакол апоры выпарэнне вільгаці, пажар, раставанне снегу, на апоры гарыць дуга і г.д.), на адлегласць менш за 20 м, а таксама працаваць у пралётах, якія прылягаюць да гэтых апор;
– праязджаць на машыне альбо механізме, які мае агульную вышыню з грузам ці без грузу ад паверхні дарогі больш за 4,5 метра;
– выконваць земляныя работы на глыбіні больш за 0,3 м, а на ворных землях больш за 0,45 м, на адлегласці менш за 2 м ад апор, падкосаў, адцяжак без пісьмовага дазволу ўласніка лініі;
– складзіраваць кармы, угнаенні, салому, торф, дровы і іншыя матэрыялы, разводзіць агонь у ахоўных зонах паветраных ліній электраперадачы, устройваць рознага кшталту звалкі;
– садзіць альбо высякаць дрэвы і кусты;
– узводзіць драцяныя агароджы для садоў і агародаў;
– самастойна прымаць якія-небудзь меры па знятцы провада з машыны ўручную, у тым ліку і з дапамогай якіх-небудзь прадметаў;
– датыкацца да апор, улазіць на іх альбо прывязваць да іх жывёл;
– накідваць альбо прыстаўляць да правадоў ПЛ якія-небудзь прадметы;
– размяшчаць запраўчныя станцыі і іншыя сховішчы гаруча-змазачных матэрыялаў, а таксама **КАТЭГАРЫЧНА ЗАБАРАНЯЕЦЦА** запраўляць машыны гаручым у ахоўнай зоне ПЛ;
– размяшчаць палявыя станы, устройваць загоны для скаціны, а таксама паліваць сельскагаспадарчыя культуры;
– працаваць стогаскладальнікам пад правадамі паветранай лініі.

Працаваць у ахоўнай зоне ПЛ арганізацыям, прадпрыемствам і прыватным асобам дазваляецца толькі пры пісьмовым дазволе і допуску Маладзечанскімі электрасеткамі. Выкананне работ у ахоўнай зоне ПЛ з прымяненнем высокагабарытных машын і механізмаў павінна адбывацца па нараду-допуску, які выдаецца тэхнічным кіраўніцтвам уладальніка машын і механізмаў. Допуск да работ па нараду-допуску дае прадстаўнік электрычных сетак – уласнік ПЛ.

Парушэнне Правілаў аховы ліній электраперадач, якое выклікала альбо магло выклікаць перарыў у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, пашкоджанне электрычных сетак альбо нанясенне іншай шкоды народнай гаспадарцы цягне за сабой прыцягненне вінаватых у гэтым да строгай адміністрацыйнай адказнасці.

**Згодна з Кодэксам РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях (артыкул 20.3):**

За парушэнне правілаў аховы электрычных сетак РБ цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры: на фізічную асобу да 20 базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – да 50 базавых велічынь, на юрыдычную асобу – да 200 базавых велічынь.

– парушэнне правілаў аховы электрычных сетак РБ, якое выклікала пашкоджанне электрычных сетак або перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, альбо прычыненне іншай шкоды, цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры: на фізічную асобу – ад 20 да 50 базавых велічынь; на індывідуальнага прадпрымальніка – ад 20 да 100 базавых велічынь; на юрыдычную асобу – да 500 базавых велічынь.

Адміністрацыйнае спагнанне не вызваляе вінаватага ад пакрыцця матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым парадку.

Вядома, што электраэнергія дае чалавеку шмат якія даброты. Аднак людзі забываюць, што яна можа быць і крыніцай павышанай небяспекі.

**Назіраецца рост гібелі людзей пры лоўлі рыбы ў вадаёмах паблізу паветраных ліній (набліжэнне вудаў на недапушчальную адлегласць да правадоў ПЛ). Асабліва небяспечна дакранацца вудзільнам непасрэдна да правадоў ПЛ пры лоўлі рыбы пад паветранай лініяй.** Будзьце асцярожныя пры выбары месца для рыбалкі. Лініі электраперадачы праходзяць на вышыні 6-7 метраў, а даўжыня пэўных мадэляў спінінга можа перавышаць гэту адлегласць. Падчас перамяшчэння абавязкова складайце вудзільны, каб пазбегнуць выпадковага дотыку да правадоў.

**Таксама магчымае дакрананне машын, механізмаў да правадоў ПЛ, дзе можа адбыцца набліжэнне на недапушчальна блізкую адлегласць да проваду, абрыў проваду і яго падзенне на механізм або наезд механізму на абарваны провад.** Машыны і механізмы варта спыняць па-за ахоўнай зоны ПЛ. Пры аварыйным спыненні машыны ў ахоўнай зоне ПЛ яе трэба выцягнуць у самы кароткі тэрмін з зоны на буксіры.

Пры падзенні проваду ПЛ на машыну кіроўца павінны неадкладна спыніць машыну. Калі пры гэтым можна вызваліць машыну ад абарванага проваду перамяшчэннем машыны, то неабходна зрабіць гэта як мага хутчэй і паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі.

Калі няма такой магчымасці, вадзіцель павінны паведаміць пра здарэнне ў электрычныя сеткі і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні кіроўца, ні вадзіцель не павінны прымаць ніякіх дзеянняў. Набліжацца да такой машыны на адлегласць бліжэй за 20 метраў забараняецца.

Калі ў выніку наезду на апору, падзення проваду ПЛ або ўзнікнення электрычнага разраду машына загарылася, неабходна тэрмінова яе пакінуць, але так, каб не было адначасовага сутыкнення чалавека з машынай і зямлёй. Лепш за ўсё скокнуць на зямлю на абедзве сагнутыя ногі, не трымаючыся за машыну. Аддаляцца ад машыны можна толькі скачкамі на адной ці дзвюх нагах або “гусіным крокам”, не адрываючы ступні ног адна ад адной, і адысці такім чынам ад машыны на адлегласць не менш за 20 метраў. Пра здарэнне неабходна паведаміць у электрычныя сеткі па тэлефонах:

**(8-0176)726-2-85**;
**(8-0176)726-5-36**;
*г. Маладзечна,*
*вул. Драздовіча, 27*
ці ў

☑ **Маладзечанскія гарадскія электрасеткі, тэл. (8-0176) 74-70-70;**
☑ **Маладзечанскі РЭС, тэл. (8-0176) 54-62-15;**
☑ **Вілейскі РЭС тэл. (8-01771) 5-56-65;**
☑ **Валожынскі РЭС, тэл. (8-01772) 5-53-47, 144;**
☑ **Мядзельскі РЭС, тэл. (8-01797) 5-53-47.**

Да прыбыцця спецыяльнай брыгады электрасетак забараняецца прымаць якія-небудзь дзеянні па пажаратушэнні машыны і набліжацца да яе бліжэй за 20 м.

Памятайце: неабдуманае паводзіны побач з энергааб’ектамі могуць прывесці да трагічных наступстваў.

Маладзечанскія электрычныя сеткі.
УНП 100071593

● ГІСТОРЫЯ

# Званы забытае бажніцы

## Гісторыя беркаўскай царквы

МЯДЗЕЛ

**18 стагоддзе ў рэлігійным жыцці былога Ашмянскага павета Вялікага Княства Літоўскага было досыць спакойным часам. Практычна ўсе цэрквы грэцкага абраду перайшлі пад уніяцкую юрысдыкцыю яшчэ ў другой палове 17 стагоддзя.**







Лакалізацыя месца Беркаўскай царквы.

Таму гэты рэгіён пазбег міжканфесійнай напружанасці, характэрнай для ўсходніх і паўднёвых беларускіх земляў.

Сетка ўніяцкіх парафій тут была досыць разгалінаваная і прадстаўнічая. У адміністрацыйным плане ўсе цэрквы Ашмяншчыны ўваходзілі ў склад трох дэканатаў Кіеўска-Віленскай мітрапаліцкай епархіі – Ашмянскага, Даўгінаўскага і Мядзельскага. У часы Расійскай імперыі дэканацкія і епархіяльныя межы не раз мяняліся, пакуль у 1839 годзе пастановай Полацкага сабора ўніяцкая царква на тэрыторыі так званых "заходніх губерняў" не была ліквідаваная. Парафіяльныя храмы былі пераведзеныя пад праваслаўную юрысдыкцыю.

І хоць абсалютная большасць парафій разам з будынкамі цэркваў пасля канверсіі ўдала праіснавала амаль да нашага часу, некаторыя храмы пакінулі па сабе ледзь прыкметныя сляды. Адным з прыкладаў такога сумнага лёсу з'яўляецца гісторыя Беркаўскай царквы. Сёння гэта месца знаходзіцца ў Мядзельскім раёне, раней – у Вілейскім павеце. Паспрабуем адшукаць як мага больш дэталяў пра яе існаванне, тым самым аднаўляючы забыты фрагмент гісторыі Вілейшчыны.

### Якой была Беркаўская парафія 250 год таму

Не сакрэт, што цэрквы, якія цяпер маюць уніфікаваны "рэтраспектыўна-рускі" знешні выгляд дзякуючы захадам расійскай адміністрацыі другой паловы 19 стагоддзя, стаяць на даўнейшых падмурках грэка-каталіцкіх бажніцаў: Нарач, Рускае Сяло, Ганута, Вілейка, Куранец, Касута, Рабунь, Касцяневічы, Сэрвач, Даўгінава, Крывічы, Княгінін...

Такі лёс Беркаўскай парафіяльнай царквы Даўгінаўскага дэканату ў гонар Перамянення Божага. Драўляны храм з адным алтаром быў пабудаваны ў 1713 годзе на грошы **Самуіла і Канстанцыі Вільчапольскіх**. А ў 1760-я гады яе калятарам – свецкім патронам – быў маршалак Ашмянскага павета, мядзельскі стараста **Марцін Аскерка**.

У нашым распараджэнні знаходзіцца каштоўны дакумент з архіва былой Літоўскай грэка-ўніяцкай духоўнай кансісторыі. Гэта апісанне Беркаўскай парафіі 1766 года, якое дае вычарпальныя звесткі пра яе памеры.

У Беркаўцах з Зарэчным, уласнасці Марціна Аскеркі, налічвалася 80 парафіян. У Субачах, падзеленых паміж трыма землеўладальнікамі (Аскеркамі, Вазгірдамі, Радзевічамі) – 82. У Лётках – 26, Слабодцы – 88, Радзевічах – 60, Далжанах – 53, Сваткаўшчыне – 61, Наўрах – 116, Градзішчах – 21, Восаве – 207, Будках – 49, Кусях (якія належалі Радзевічам) – 64. Асобна запісаныя жыхары плябаніі ("плябані, альбо фамілії дамовай") – 10 асобаў.

**Парафія складалася з 907 асоб. На яе прасторах жылі і тры яўрэйскія сям'і – агулам 21 чалавек (у Наўрах, Беркаўшчыне, Сваткаўшчыне). Больш у парафіі не было ніякіх "іншых народаў альбо сект".**


1828 Roku

1. Jan 28 Janowi Rokickiemu Młodzianowi ze Wsi Wyhołowicz z Dziewką Chwiedorą Hryszkiewiczowną ze Wsi Kanczynego po Wydanych 3ch Zapowiedziach, odbytey Sakramentalney Spowiedzi Umiejętnych pacierza niemających żadney przeszkody przy Swiadkach Chwiedorze Prudnikowiczu Maśnie Sokowiczu Lewonie Hryszkiewiczu Ślub Błogosławiłem Swiadczy A Jakob Prokopowicz Rządca Birkowski y Kościeniewicki



Подпіс Якава Пракаповіча ў метрычнай кнізе 1828 года.

### Служыцелі Беркаўскай царквы

Гэты каштоўны дакумент складаў уласнаручна настаяцель Беркаўскай царквы – **Ігнат Зянковіч**. Гэта яго "фамілія" з дзесяці чалавек жыла ў плябані пры царкве. У 1780-х гадах пры царкве служыў **Ян Зянковіч**, сваяк, а магчыма сын айца Ігната.

У пачатку XIX стагоддзя ў царкве служылі: паводле стану на 1799 год – **Ян Мацкевіч**, да 1824 года – **Ян Дамашэўскі**, а з 1825 года на старонках метрычных кніг з'яўляецца імя **Якуба Пракаповіча**, адміністратара, ці часовага наглядчыка, Касцяневіцкага і Беркаўскага. Ён быў пераведзены сюды з Пярэжырскай царквы Ігуменскага павета ў 1825 годзе.

Паводле рэвізскай казкі 1834 года, Беркаўшчына ляжала ва ўладаннях **Язэпа Казелы**. Гэты дакумент разам з клірывай ведамасцю 1847 года дае даволі шмат звестак пра сям'ю святара.

### Святар Якуб Пракаповіч

Якуб, сын Яна Пракаповіча, нарадзіўся ў 1799 годзе. Як сведчаць дакументы, ён паходзіў са шляхецкай сям'і Мінскай губерні. У Мінскім дваранскім дэпутацкім сходзе прадстаўнікі роду Пракаповічаў падавалі дакументы на пацвярджэнне свайго знатнага паходжання ў 1817, 1820 і 1824 гадах.

Аднак найбольш верагодна, што галіна роду Якуба Пракаповіча паддалася тагачаснай модзе і засцагала атрымаць пацвярджэнне шляхецкай годнасці, не маючы для гэтага неабходных падстаў. Святарская дынастыя Пракаповічаў, сярод якой магчыма фігуруюць прамыя продкі айца Якуба, у 18 стагоддзі мела шмат сваіх прадстаўнікоў у Мазырскім і Пінскім паветах, якія пасля падзелаў Рэчы Паспалітай увайшлі ў склад Мінскай губерні Расійскай імперыі.

Якуб Пракаповіч вучыўся ў школе пры базыльянскім манастыры, найбольш верагодна, гэта быў манастыр у Лядах, і Навасвержанскай духоўнай семінарыі. 10 жніўня 1824 года быў высвечаны тытулярным аршанскім епіскапам **Адрыянам Галаўнёй** у сан святара і прызначаны да Пярэжырскай царквы ў Ігуменскі павет. У 1825 годзе адбыўся яго перавод да Беркаўскай царквы.

У 1834 годзе айцец Якуб ужо меў вялікую сям'ю. Жонка **Ганна Андрэеўна**, якая была на два гады маладзейшая, нарадзіла яму шэсць сыноў: **Антона**, **Леапольда**, **Лявона**, **Іосіфа**, **Каятана** і **Івана** да пяць дачок: **Ганну**, **Юльяну**, **Камілу**, **Феліцыяну** і **Марыяну**. У святарскай сям'і выхоўваўся яшчэ і пасынак **Пётр**, сына **Тамаша Васілеўскага**. Пётр у 1834 годзе вучыўся ў базыльянскай школе ў Барунах.

Да таго ж у доме Якуба Пракаповіча знайшла прытулак яго цешча **Ганна Карловіч** (паводле іншых звестак – Карніловіч), разам са сваёй 22-гадовай дачкой **Марыяй**.

Святар меў драўляны дом на царкоўнай зямлі і атрымліваў заробак – 236 рублёў срэбрам на год. Пры царкве ў 1834 годзе таксама жыў служка – 70-гадовы званар **Карніла Канстанцінаў Апанасовіч** з братам і двума сынамі, а ў 1847 годзе застаўся жыць толькі ягоны сын Ілля Карнілавіч разам з сям'ёй.

На 1847 год сыны святара вучыліся ў Віленскім павятовым вучылішчы за дзяржаўны кошт, а дочкі заставаліся пры бацьку ў Беркаўцах. Пасынак, Пётр Фаміч Васілеўскі, знаходзіўся ў школе пры Беразвецкім манастыры, дзе засвойваў "дзячкоўскія прадметы".

**Анатоль СЦЕБУРАКА,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**
**Дзяніс ЛІСЕЙЧЫКАЎ,**
**кандыдат гістарычых навук, намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.**

**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

**22 КРАСАВІКА**
**Міжнародны дзень зямлі**

**23 КРАСАВІКА**
**85 гадоў** з часу заснавання (1932) Саюза кампазітараў Беларусі (створаны як аўтаномная секцыя пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі, з 1938 года – самастойная арганізацыя).
**70 гадоў** з дня нараджэння (1947) **Галіны Дзягілевай**, беларускай актрысы, рэжысёра, кіраўніка-дырэктара Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч".

**22-24 КРАСАВІКА**
**80 гадоў** назад (1937) у Мінску адбылася Усебеларуская нарада архіўных работнікаў.
**25 красавіка – Радаўніца.**

**26 КРАСАВІКА**
**Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чанобыльскай АЭС.**
**175 гадоў** назад (1842) скончылася будаўніцтва Брэсцкай крэпасці.

**27 КРАСАВІКА**
**1945 год.** Беларусь увайшла ў склад членаў-заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.
**100 гадоў** назад (1917) у Варшаве памёр **Лазар Заменгоф**, доктар-акуліст і лінгвіст яўрэйскага паходжання, вядомы як вынаходнік мовы эсперанта, найбольш паспяховай з сканструяваных міжнародных моў. Таксама вядомы па псеўданіму Доктар Эсперанта, пад якім апублікаваў у 1887 годзе сваю работу "Міжнародная мова" якая ўключала апісанне мовы і падручнік. Нарадзіўся ў Беластоку і пэўны час жыў у Гродне.
**70 гадоў** з дня смерці (1947) **Валянціна Таўлая**, паэта, дзеяча заходнебеларускага нацыянальнага руху. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.
**1930 год.** У Мінску нарадзіўся **Май Данцыг**, беларускі жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, праз некаторы час мастацкі інстытут імя Сурыкава ў Маскве. Працаваў загадчыкам кафедры жывапісу Акадэміі мастацтваў. Творы мастака знаходзяцца ў Дзяржаўнай Трацццякоўскай галерэі, Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у калекцыях Бельгіі, Германії, Ізраіля, Італіі, ЗША, Канады, інш. Назвы некаторых яго работ вядомыя нават школьніку: "Беларусь – маці партызанская", І памятае свет выратаваны", "Мой горад". Яму належаць словы: уменне вучыцца – гэта таксама вялікае мастацтва, прычым вучыцца ўсё жыццё. Памёр сёлета 26 сакавіка.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Адкуль у Ілы ўзялася манета Свяшчэннай Рымскай імперыі

## Археолагі распавялі пра знаходкі на месцы ільянскай гуты

ВІЛЕЙКА

**Больш за два стагоддзі пад зямлёй на ўскрайку Ілы чакала археолагаў манета Свяшчэннай Рымскай імперыі, датаваная 1609 годам.**

Як яна трапіла ў беларускае мястэчка? Якія яшчэ археалагічныя знаходкі хавала ў сабе ільянская зямля? Пра гэта на нядаўняй сустрэчы з вучнямі Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця распавяла археолаг, выкладчыца БДУ, супрацоўніца НАН Беларусі, кіраўнік леташняй экспедыцыі ў Ілы **Паліна Курловіч-Бяляўская**.

### Шклагута ў Ілы: як усё пачыналася

Летась у канцы чэрвеня – пачатку ліпеня археолагі праводзілі раскопкі на месцы, дзе ў канцы 18 – пачатку 19 стагоддзя пачала працаваць мануфактура па вырабе шкла.

Па словах даследчыцы, шкло на Беларусі з'явілася ў бронзавым і жалезным вяках. У 16 стагоддзі распаўсюдзіўся шкляны посуд.

У 17 стагоддзі на Беларусі, магчыма, з'явіліся першыя шкларобчыя майстэрні. Ільянская гута ў дакументах згадваецца ў 1772 годзе. Але, па словах даследчыцы, магла існаваць і раней.

### Працуем спачатку рыдлёўкай, потым шуфлем, пасля пэндзлікам

Раскоп, закладзены на месцы былой гуты, даследчыкі раздзялілі на роўныя квадраты два на два метры. Потым з квадратаў зямлі здымалі дзёран. Першыя знаходкі былі ўжо ў ім.

Спачатку капалі рыдлёўкай, потым шуфлікам. А каб не прапусціць дробныя знаходкі, працавалі пэндзлікам. Выкарыстоўвалі і металадэтэктар.

З яго дапамогай знайшлі старажытныя грошы. Гэта манеты Расійскай імперыі і Рэчы Паспалітай 18 стагоддзя, манета 1609 года са Свяшчэннай Рымскай імперыі і нават адна фальшыўка.

У 18 стагоддзі працавалі фальшываманетчыкі. Па словах Паліны Курловіч-Бяляўскай, манета была перачаканеная з ранейшай і важыла амаль у два разы менш, чым сапраўдная.

Цікава і тое, якім чынам у зямлю на ўскрайку Ілы магла трапіць рымская манета пачатку 17 стагоддзя.

> **– Магчыма, манета належала першаму майстру гуты, – падзялілася сваімі здагадкамі Паліна. – Салагубы маглі запрасіць шклароба са Свяшчэннай Рымскай імперыі для таго, каб ён навучыў гэтаму рамяству ільянцаў.**

Жалезныя знаходкі папоўнілі таксама спражка ад рамяня, цвікі розных памераў і фрагмент шчыпцоў, з дапамогай якіх працавалі з гарачым шклом.



Ліпень, 2016 год. Яўгенія Сцепановіч за працай падчас археалагічнай экспедыцыі ў Ілы.

### Самае цікавае знайшлі ў яме для смецця

У час раскопак археолагі знайшлі падлогу шклозавода. Яе рабілі з гліны, укладзенай з кавалкамі цэглы. Сцены і дах, верагодна, былі з дрэва.

Знойдзеная выкладка з цэглы, вапны і камянёў – месца, дзе майстры фармавалі шкляныя вырабы.

Але цэнтральную частку гуты займала печ з гліны, дадаткова ўмацаваная камянямі і пераплеценым дрэвам.

Шмат знаходак было ў яме, куды работнікі шкляной гуты кідалі смецце. Напрыклад, тут знайшлі косці жывёл. Паліна дамовілася з расійскім архазаолагам, які павінны зрабіць аналіз касцей. У выніку мы даведаемся, чым харчаваліся шкларобы ў Ілы.

Вялікая частка артэфактаў – кераміка. Гэта рэшткі розных сасудаў. Іх выкарыстоўвалі для захоўвання ежы і для яе прыгатавання. Бо на некаторых кавалках ёсць нагар.

Дзіўна, што самая старажытная знойдзеная кераміка можа датавацца нават пятым стагоддзем нашай эры (а магчыма, і ранейшым часам). Застаецца толькі здагадвацца, якім чынам яна магла трапіць на ільянскае прадпрыемства 18 стагоддзя.

Група Паліны Курловіч-Бяляўскай – не першыя археолагі, якіх зацікавіла месца на ўскрайку Ілы. Робячы свае раскопкі, даследчыкі знайшлі сляды папярэднікаў. У 1982 годзе тут працаваў гісторык, пісьменнік, археолаг, ураджэнец Мядзельшчыны **Міхась Чарняўскі**.

Аднак, па словах Паліны, не засталося дакументаў пра гэтыя раскопкі. Частку знаходак Чарняўскі перадаў музею ў Маладзечне.

### Такое рознае шкло

Вырабы завода – шкляныя рэшткі розных памераў і колераў – таксама папоўнілі калекцыю знаходак. Знойдзенае шкло – блакітнае, зялёнае, празрыстае, ружова-фіялетавае. З яго рабілі посуд, аптэкарскія сасуды, аконнае шкло.

Зацікавіў даследчыкаў і невядомы шкляны выраб круглай формы з ружовага шкла. На ім ёсць нешта падобнае на пячатку або штамп. Аднак літары на ім не чытаюцца.

Вучняў зацікавіла, чаму Паліна абрала прафесію археолага. Ды і настаўнікі здзіўляліся, як такімі далікатнымі дзявочымі ручкамі можна капаць зямлю рыдлёўкай.

### Ільянская гута трапіць у дысертацыю

Па словах Паліны, у старэйшых класах яна прачытала кніжку пра археолагаў. Потым паўдзельнічала ў раскопках. Вырашыла, што гэта цікава ёй, і паступіла на гістарычны факультэт у БДУ.

Што звязвае Паліну з Ільяншчынай? Яна – мінчанка, а карані з захаду Беларусі. Аднак даследчыца піша дысертацыю пра выраб шкла ў Беларусі. І таму абмінуць Ілью яна ніяк не магла.



Паліна Курловіч-Бяляўская раскладае знаходкі.

> **– У ільянскую школу я прыехала па ўласным жаданні, – расказала археолаг. – Вельмі хацелася паказаць дзецям, што мы зайшлі ў іх вёсцы, жывучы ў іх школе.**

Па словах Паліны, супрацоўнікі школы і мясцовыя жыхары цёпла адносіліся да даследчыкаў. Дазвалялі паставіць у хляве рыдлёўкі.

А мясцовы краязнаўца і пісьменнік **Уладзімір Кажамяка** нават "ахвяраваў" археолагам мех бульбы з уласнага агарода і трохлітровы слоік капусты.

Паліна падзялілася, што гэтым летам плануе прыехаць на раскопкі з вялікай групай студэнтаў гістфака БДУ.

### Сэлфі з манетай 17 стагоддзя

Напэўна, для вучняў самай яркай і ажыўленай стала апошняя частка сустрэчы. Справа ў тым, што Паліна не толькі расказала дзецям пра ільянскія знаходкі і працоўныя будні археолагаў.

Яна прывезла цэлы заплечнік пранумараваных, клапатліва раскладзеных па пакецiках ільянскіх знаходак. Так што вучні маглі паглядзець, памацаць і сфатаграфаваць на мабільныя тэлефоны артэфакты двухсотгадовай даўніны.



**Аксана ЯРАШОНАК**
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99

# Калі што ёсць, дык толькі ад бацькоў...

## Юрась Церабун пра тое, як сям'я Церабуноў стала смаргонцамі

*Калі што ёсць, то толькі ад бацькоў.*
*І дзякуй, бедным ім, за дапамогу.*
*Здавалась сэрца нам маглі аддаць.*
*Як з абразом праводзілі ў дарогу.*
*Яны не хваляваліся за сябе.*
*За шэсць дзяцей, што паляцелі ў вырай.*
*І нас прасілі толькі ад адным*
*Не крыўдзіцесь над нашаю магілай.*

**Юрась Церабун.**

*Светлай памяці нашых бацькоў Васіля і Антаніны Церабуноў.*

**У самым канцы вайны ў 1945 годзе нашай сям'і з пяццю дзецьмі давялося пакінуць сваю Польшчу.**

Жыць там нам, беларусам, стала немагчыма. Пастаянныя пагрозы і словы: "Едзьце да свайго Сталіна".

Што зробіш, калі мы не гаспадары на сваёй роднай Беласточчыне.

І вось бацька Васіль Карнілавіч, чалавек удумлівы і разважлівы, з ім раілася ўся вёска, кажа маці:

– Тоня, слухай, у нас малыя дзеці. Толькі з-за гэтага мы павінны адсюль з'ехаць. Да таго ж мы праваслаўныя.

Пакінуўшы абжытую хату і гаспадарку з трыма вузламі пажыткаў, уціснуліся ў грузавы цягнік.

З вялікімі цяжкасцямі прыехалі ў Сальск Растоўскай вобласці. Летам 1945 года там была страшэнная спякота, трэскаўся стэп і ні кроплі вады.

Людзі, якія ішлі па дарогах у горад, падалі і толькі прасілі піць. Некаторыя з іх тут і паміралі.

Мне тады ішоў другі гадок, і маці страціла ўсякую надзею, што буду жыць.

Але на ўсё ёсць воля Божая.

Бацька ўгаварыў Камітэт па эвакуацыі, каб нас перавезлі ў Беларусь.

Станцыя Солы Смаргонскага раёна. Трое сутак пад адкрытым небам праседзелі на пероне на сваіх вузлах.

Нейкая жанчына спынілася і пытае маці:

– Людцы мае. А чаго гэта вы тут седзіце? Што здарылася?

Маці адказала, што мы бежанцы.

Непатрэбныя Польшчы, Расеі, відаць, і тут будзе тое самае, не маем ніякага прытулку.

– Шмат не абяцаю, але месца ўсім вам на саломе ў хляве я знайду.

Праз некаторы час яна прыехала за намі на возе і адвезла ў сваю вёску Несцяняты.

Прынесла нам чыгун варанай бульбы. Адну бульбіну абабрала і падала мне, як самаму малому.

Маці казала, калі я з'еў, у мяне адразу пачырванелі шчокі.

Мы былі шчаслівыя, бо над намі была саламяная страха, і мы першы раз спакойна спалі.

Тут, у гэтай беларускай вёсачцы, нарадзілася шостае дзіцятка, сынок Валодзя. Гэта было 11 красавіка 1946 года. Я нарадзіўся ў такое самае чысло і месяц, толькі на два гады раней.

Бацька пайшоў шукаць Смаргонскі лесазавод. Ён быў выдатны піларамшчык і працаваў на польскіх тартаках. Заводу былі патрэбныя добрыя спецыялісты, таму ўзялі на працу адразу.

Непадалёку ад завода на хутары вёскі Свірыдавічы бацька падшукаў невялічкую хатку.

Мы павінны былі пакінуць гасцінныя Несцяняты. Наша збавіцельніца па дарозе ў Смаргонь заходзіла да нас. Маці, чым магла, частавала, нешта давала з сабой, а сястра шыла ёй вопратку.

Ішоў час. Бацьку як добраму работніку на заводзе выдалі пазыку ў выглядзе пэўнай колькасці бярвенняў для будаўніцтва сваёй хаты.

І вось на вуліцы Багушэвіча бацька пачаў будаваць наша сямейнае гняздзечка.

Так мы сталі смаргонцамі.

### Уладзімір Калачык. Паказаў жанчынам, як трэба трымаць серп у руках

Вайна прынесла шмат гора людзям.

Беларуская вёска Мароські на Маладзечаншчыне.

Да пачатку вайны ў ёй было 150 двароў. За два дні да прыходу Чырвонай Арміі і вызвалення Маладзечна ў 1944 годзе вораг ушчэнт спаліў вёску, цудам уцалелі тры хаты.

Ад хаты Калачыкаў застаўся толькі адзін комін. Каля патухлых галавешак стаялі дзеці-сіроты. Тры хлопчыкі і маленькая дзяўчынка. Старэйшы з іх, Валодзя, яму тады было 14 гадоў, змог выгадаваць іх, а людзі дапамаглі пабудаваць хатку.

Працавалі на зямлі з ранку да вечара. Мелі карову, таму і змаглі выжыць.

У 26 гадоў на агульным сходзе **Уладзіміра Калачыка** выбіраюць старшынёй калгаса "Светлы шлях". Спачатку калгаснікі з нейкім недаверам аднесліся да юнака. А калі той узяў у рукі серп і паказаў жанчынам, як жнуць у іх у Мароськах, адносіны змяніліся.

Уладзімір Міхайлавіч раіўся з людзьмі сталага ўзросту, што калі лепш сеяць і што пасля чаго.

Ішоў час, і пра Уладзіміра Калачыка пачулі ў Мінску, Маладзечне і іншых гаспадарках рэспублікі.

Пачалі прыязджаць знаёміцца з калгасам **Пётр Міронавіч Машэраў**, **Сяргей Восіпавіч Прытыцкі**, **Іван Фролавіч Клімаў**, **Вячаслаў Антонавіч Ляшковіч** і іншыя высокія асобы.

Уладзімір Міхайлавіч закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і абараніў кандыдацкую дысертацыю як эканаміст.

Ён упершыню ў Беларусі ўвёў грашовую аплату працы калгаснікам. У гэтым вялікая заслуга галоўнага эканаміста калгаса, яго жонкі **Лідзіі Васільеўны Калачык**. Яна таксама закончыла сельскагаспадарчую акадэмію. Нават дома па вечарах разам планавалі, рабілі разлікі, пісалі даклады і справаздачы. Старшыня ездзіў пераймаць досвед у замежных фермераў, пасылаў да іх лепшых сваіх спецыялістаў, але на ўліку была кожная калгасная капейка.

Грошы на вецер не кідалі, таму і змаглі пабудаваць кантору, пошту, Дом быту, Дом культуры з бібліятэкай, стадыён з трыбунамі, школу, дзіцячы садок, магазін, паліклініку, лазню, кацельню, некалькі двухпавярховых дамоў, домікі для маладых спецыялістаў.

Калгас быў у спісе лепшых гаспадарак рэспублікі. Яго ўзнагароджвалі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а Уладзімір Калачык атрымаў "Залатую Зорку" Героя Сацыялістычнай Працы.

Ён быў дэпутатам двух скліканняў Вярхоўных Саветаў СССР і БССР. 20 год быў у складзе прэзідыума савета калгасаў у Маскве. Яго імя занесенае ў Вялікую Энцыклапедыю СНД "Хто ёсць хто".

Ганаровы грамадзянін Маладзечанскага раёна.

Але сярод ордэнаў і медалёў ёсць дарагія яго сэрцу дзве падзякі Уладыкі Філарэта за ўзвядзенне і аднаўленне нашых святынь.

Пабудаваў цэрквы ў Мароськах і Заскавічах, аднавіў у Лебедзеве і Беніцы.

Людзі і сёння ўдзячныя яму за гэта.

**Заканчэнне будзе.**
**Юрась ЦЕРАБУН,**
**мастак,**
**выкладчык цымбалаў.**



Фота Юрася ЦЕРАБУНА.

Уладзімір Калачык атрымаў "Залатую Зорку" Героя Сацыялістычнай Працы.

# Убіраць камяні, быць раз'язным дворнікам

## Якую часовую работу прапануюць на Маладзечаншчыне

МАЛАДЗЕЧНА

З пачаткам палявых работ і падрыхтоўкай да лета лагераў ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама з'явілася больш прапаноў па часовай рабоце.

Мы сабралі спіс вакансій, на якія можна ўладкавацца. Асноўнае патрабаванне да кандыдатаў – мець агульную сярэднюю адукацыю. Заробак прапануюць ад 265 рублёў да 420. Большасць спецыялістаў патрабуюцца ў Радашкавічы.

Усяго на 17 красавіка ва ўпраўленні па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Маладзечанскага райвыканкама было 155 вакансій.

| Спецыяліст | Заробак (руб.) | Пра вакансію |
|---|---|---|
| Прыбіральшчык памяшканняў (вытворчых, службовых) – 30 чалавек | 265 | Прыбіральшчык спальных карпусоў, у маі – раз'язны характар работы, пражыванне ў лагеры ад чэрвеня да жніўня. Арганізацыя знаходзіцца ў Мінску. |
| Прыбіральшчык памяшканняў (вытворчых, службовых) – 5 чалавек | 266,80 | Дзіцячы аздараўленчы лагер "Лясны" ў вёсцы Мясата. |
| Прыбіральшчык памяшканняў (вытворчых, службовых) | 370 | Ад 5 чэрвеня да 24 жніўня ў Радашкавічы. |
| Повар | 420 | Ад 5 чэрвеня да 24 жніўня ў Радашкавічы. |
| Афіцыянт | 360 | Ад 5 чэрвеня да 24 жніўня ў Радашкавічы. |
| Мыйшчык посуду | 360 | Ад 5 чэрвеня да 24 жніўня ў Радашкавічы. |
| Жывёлавод – 4 чалавекі | 350 | На лета пастухі ў Маркава. |
| Дворнік – 2 чалавекі | 265 | У маі – раз'язны характар работы, пражыванне ў лагеры ад чэрвеня да жніўня. Арганізацыя знаходзіцца ў Мінску. |
| Дворнік | 270 | Ад 5 чэрвеня да 24 жніўня ў Радашкавічах. |
| Грузчык – 3 чалавекі | 300 | У маі – раз'язны характар работы, пражыванне ў лагеры ад чэрвеня да жніўня. Арганізацыя з Мінска. |
| Грузчык | 380 | Ад 5 чэрвеня да 24 жніўня ў Радашкавічах. |

## Людзі пра часовую работу

Маладзечанец **Юры** працуе на ЗМК. Ён ездзіў збіраць камяні ад прадпрыемства ў Мясату.

– У чацвер, 13 красавіка, у нашым аўтобусе былі людзі з 10-12 арганізацый, – расказвае мужчына. – Поле цалкам усыпанае камянямі, як быццам іх там пасадзілі. Сэнсу ў збіранні камянёў ніякага не бачу. Мы і 10% таго, што ёсць, не сабралі. Кіраўніцтва, пастаўленае над намі, звярталася так, нібы гэта наш абавязак. Самі сядзелі ў аўтобусе, а людзі мерзлі на холадзе. Аднак зазначу, што не асабліва ганялі народ. Вельмі здзівіла, што адправілі маладых далікатных дзяўчат. Толькі ў нашай краіне такое магчыма.

Маладзечанец мяркуе, што ад такога мерапрыемства больш затрат, чым прыбытку.

– Калі падлічыць затраты, атрымліваюцца вельмі дарагія камяні! – падвёў выснову Юры.

Адразу пасля з'яўлення артыкула на сайце, у каментарах пасыпаліся абураныя меркаванні.

Наіўны чукоцкія юнакі. Сказаў сваё слова – работа з'явілася, дабрадзейнасць прама. Раней адзін за адным хадзілі шэсць чалавек і зараблялі, напрыклад, па 300 рублёў, цяпер возьмуць сёмага і будуць атрымліваць па 250. А скажуць, прыйдзе і дзявяты, і дзясяты. Месцы яны рабочыя знайшлі **(Вадзім)**.

Згодны, проста прымусілі дзяржпрадпрыемствы стварыць вакансіі самыя малакваліфікаваныя. І ўсё! Яны высакародныя людзі! Дзякуй ім за гэта!!! **(Юры)**.

Фуфло! Няма работы! Падман! **(Сяргей)**.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

● НАВІНЫ

## "Смаргонь" узначаліла турнірную табліцу

СМАРГОНЬ

ФК "Смаргонь" зноў мінімальна перамог у гасцях. У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе 15 красавіка смаргонцы адолелі "Баранавічы".

Адзіны гол у матчы забілі на 43-й хвіліне. Пасля падачы вуглавога гулец "Баранавічаў" зрэзаў мяч у свае вароты.

У гэтым матчы паўабаронца "Смаргоні" **Аляксей Клачкевіч** дэбютаваў за каманду. Выйшаў ён на поле на 79-й хвіліне. Адметнасць у тым, што футбаліст згуляў першы матч за "Смаргонь" ва ўзросце 16 год, а дакладней, 16 год, чатыры месяцы і 20 дзён. Аляксей – выхаванец Смаргонскай ДЮСШ, трэніраваў яго **Віталь Арцёменка**.

Пасля другога тура "Смаргонь" з шасцю ачкамі ўзначаліла турнірную табліцу. Каманда працягне выязную серыю. Наступны матч яна правядзе 22 красавіка ў гасцях супраць "Нёмана-Агра".

## Маладзечанскія юнакі – трэція ў вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

У Лагойску 9-10 красавіка прайшлі фінальныя гульні алімпійскіх дзён моладзі Мінскай вобласці па футболе сярод юнакоў 2002 года нараджэння і маладзейшых. Прымала ўдзел у спаборніцтвах каманда Маладзечанскага раёна. Да гэтага яна перамагла ў сваёй групе ў папярэдніх гульнях алімпійскіх дзён моладзі. Тады маладзечанцы былі мацнейшыя за каманды Мінскага, Дзяржынскага і Уздзенскага раёнаў.

У Лагойску маладзечанскія футбалісты змагаліся з камандамі Слуцкага, Барысаўскага, Салігорскага раёнаў і Жодзіна. Каманда Маладзечанскага раёна фінішавала трэцяй.

## Дзяўчаты са Смаргоні выйшлі ў фінал абласной спартакіяды

СМАРГОНЬ

Каманда дзяўчат Смаргонскага раёна (трэнер Віталь Арцёменка) выйшла ў фінал абласной спартакіяды школьніцтва па футболе.

У Смаргоні на стадыёне ДЮСШ сустракаліся каманды Смаргонскага і Дзятлаўскага раёнаў. З лікам 4:0 перамагла каманда са Смаргоні.

Па адным голе забілі **Ангеліна Ілюковіч**, **Катарына Буця**. Двойчы вызначылася **Вераніка Іваноўская**. Пра гэта паведамляе дзіцяча-юнацкая спартыўная школа па футболе Смаргоні.

## Вядомыя фіналісты

МЯДЗЕЛ

Паўфіналы чэмпіянату Мядзельскага раёна па міні-футболе адбыліся 15 красавіка. РКП "Нарач" абыграла каманду аддзела адукацыі, спорту і турызму 7:1. "ІП Мядзел" прайграў "Спадарожніку" 3:7. У фінале згуляюць РКП "Нарач" і "Спадарожнік".

**Аддзел інфармацыі.**

## Старшыня "Маладзечна-ДЮСШ-4": "Выходзіць у вышэйшую лігу, не маючы нейкага фінансавага падсілкоўвання – гэта проста самагубства".

МАЛАДЗЕЧА

Старшыня праўлення "Маладзечна-ДЮСШ-4" **Андрэй Іваненка** распавёў пра перспектывы клуба ў праграме "Час футбола" на канале "Беларусь 5".

**– Чаму "Маладзечна" фаварыт?**

– Не ведаю, хто гэта сказаў. Я як кіраўнік ставлю самыя высокія задачы – перамога ў другой лізе, выхад у першую. Аднак называць нас фаварытамі да таго, як чэмпіянат стартаваў, няправільна. На дадзены момант ніхто не валодае інфармацыяй пра склады іншых камандаў. Шматлікія каманды – проста загадкі, многія ўпершыню з'явіліся ў чэмпіянаце. Нейкія высновы можна будзе рабіць пасля першага круга.

– Ёсць планы на 3-5 гадоў наперад? "Маладзечна" хутка вернецца ў вышэйшую лігу?

– Безумоўна, планы ёсць. Аднак трэба разумець, што, на жаль, у футбол сёння гуляюць грошы. Нават прыклады "папялушак", тыпу "Крумкачоў", адзінкавыя. Тыя ж "Крумкачы" маюць праблемы. Праблемы не столькі з фінансаваннем, колькі з пошукам інвестараў. Вядома, трэба змагацца за выхад у вышэйшую лігу. Але выходзіць у вышэйшую лігу, не маючы нейкага фінансавага падсілкоўвання – гэта проста самагубства. Паявілічваць расходы, выходзіць у вышэйшую лігу і змагацца там за выжыванне – гэтага недастаткова. Мы будзем рухацца невялікімі, але правільнымі крокамі. Будзем ставіць задачы ў залежнасці ад наяўных сродкаў, – сказаў Іваненка.

**Паводле by.tribuna.com.**

# "Мы будзем рабіць свята непасрэдна з самога футбола"

МАЛАДЗЕЧНА

**Сезон 2017 года не толькі для каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4", але і для ўсіх заўзятараў футбола абяцае быць насычаным.**



Фота са старонкі Андрэя Іваненкі "ў кантакце".

Старшыня праўлення ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" Андрэй Іваненка.

Прадстаўнікі каманды з'яўляюцца на тэлебачанні ў розных спартыўных праграмах, у сацыяльных сетках балельшчыкі абмяркоўваюць і планы каманды, і небыліцы пра яе.

"Рэгіянальная газета" вырашыла расставіць кропкі над "і" і патлумачыць усім неабыякавым да футбола, што ж цяпер адбываецца з камандай і чаго нам чакаць у перспектыве.

Старшыня праўлення ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" **Андрэй Іваненка** пракаментаваў тое, што хвалюе многіх.

**1. Ці праўда, што ў каманды з'явіцца новая форма?**

– Так. Мы пастараемся бліжэй да першага дамашняга матча надрукаваць новы імянны камплект формы. Ён будзе класічны белы з невялікай прысутнасцю зялёнага. Менавіта ён будзе асноўны ў гэтым сезоне. Прозвішчы гульцоў будуць напісаныя па-беларуску. Такое рашэнне было прынятае калегіяльна, але і нашы заўзятары яго адобрылі.

**2. Ці праўда, што ў склад каманды ўвойдуць толькі маладзечанцы?**

– Не зусім дакладна. Цяпер у складзе каманды ёсць тры гульцы не з Маладзечна – мы іх паклікалі закрыць праблемныя пазіцыі. У астатнім будзем старацца справіцца сваімі, маладзечанскімі, сіламі.

На старце сезона склад каманды выглядае так:

Варатары: **Антон Галгоўскі**, 21 год, **Вадзім Хмяльніцкі**, 22 гады, **Радзівон Субач**, 17 гадоў.

Абаронцы: **Аляксандр Альховік**, 35 гадоў, **Сяргей Дрозд**, 34 гады, **Прохар Новікаў**, 26 гадоў, **Мікіта Харко**, 25 гадоў, **Юры Бугай**, 24 гады, **Арцём Грыб**, 22 гады, **Андрэй Бічун**, 20 гадоў, **Сямен Хаткевіч**, 19 гадоў, **Уладзіслаў Шастаковіч**, 18 гадоў.

Паўабаронцы: **Дзмітры Касцюк**, 31 год, **Юры Пустаход**, 31 год, **Юры Малько**, 27 гадоў, **Ігар Нарожнік**, 27 гадоў, **Віктар Голуб**, 26 гадоў, **Сяргей Лавор**, 24 гады, **Павел Галубовіч**, 23 гады, **Сяргей Галюк**, 22 гады, **Аляксей Вышынскі**, 21 год, **Іван Клімовіч**, 20 гадоў, **Артур Кунцэвіч**, 19 гадоў, **Уладзіслаў Валасевіч**, 19 гадоў, **Ягор Майстровіч**, 18 гадоў, **Аляксандр Бабій**, 16 гадоў.

Нападаючыя: **Максім Чабрыцкі**, 32 гады, **Руслан Шукеловіч**, 31 год, **Ігар Талькоўскі**, 24 гады, **Антон Талстой**, 18 гадоў.

Трэнеры: **Сяргей Дарахові**ч, 39 гадоў, **Мікалай Татун**, 37 гадоў і **Віталь Макрыцкі** 37 гадоў.

**3. Ці праўда, што каманда захавала ў сваёй назве ДЮСШ па асабістай просьбе трэнера Пятра Кухальскага?**

– Абсалютна дакладна. Пётр Мікалаевіч слушна настаяў на тым, што абрэвіятура ДЮСШ-4 павінна застацца ў назве, раз 90% гульцоў з'яўляюцца яе выхаванцамі.

**4. Ці праўда, што сёлета ў маладзечанцаў з'явяцца спонсары нават з-за мяжы?**

Не зусім дакладна. У нас, сапраўды, плануюцца невялікія штомесячныя паступленні з Расійскай Федэрацыі і Нідэрландаў. Аднак гэта будзе аплата за паслугі, якія мы плануем аказваць нашым замежным партнёрам, а не спонсарская дапамога. Ды і сума падобных паступленняў будзе абсалютна невялікая – яна складзе 5-10% клубнага бюджэту.

**5. Ці праўда, што дамашнія матчы каманды будуць бясплатныя?**

– Так, на ўзроўні другой лігі гэта эканамічна мэтазгодна, паколькі затраты на вядзенне білетнай гаспадаркі супастаўныя з выручкай. Пакуль зарабіць на гэтым у клуба не атрымаецца.

**6. Ці праўда, што каманда выбірае маскота (талісманам каманды) і ці значыць гэта, што для заўзятараў кожная гульня будзе святам?**

– Маскот ўжо абраны, аднак валявым рашэннем мы адмовіліся ад маскота "Сонейка", які перамог у галасаванні – звязваць сімвалізм горада і футбольнай каманды ў дадзеным выпадку не зусім дарэчы. Таму пытанне па маскоце яшчэ некаторы час будзе адкрытым. Што ж тычыцца стварэння святочнай атмасферы, то і тут мы будзем рухацца невялікімі крокамі.

> Мы не можам дазволіць сабе адлічэнні па 20-30 мільёнаў на маркетынг за матч, як гэта рабіла "Іслач".

Таму пастараемся рабіць свята непасрэдна з самога футбола.

**7. Ці праўда, што ў каманды з'явіцца свой сайт?**

– Магчыма, у хуткім часе будзе і сайт. Але ён пакуль не з'яўляецца першараднай задачай – сайты футбольных клубаў з'яўляюцца хутчэй іміджавым момантам, чым інфармацыйнай крыніцай. Даносіць інфармацыю з дапамогай сацыяльных сетак цяпер і зручней, і танней, і больш эфектыўна.

**8. Ці праўда, што сёлета ў другой лізе будзе гуляць 13 камандаў. Здаецца "Мантажнік" адмовіўся ад гульні?**

– Камандаў, падобна, будзе ўсё ж такі 14: у апошні вагон паспеў заскочыць "Спадарожнік" з Рэчыцы, які заняў месца "Мантажніка" з Мазыра, які ўсё ж адмуляўся ў безграшовых пакутах.

**9. І, нарэшце, ці праўда, што Маладзечна выйдзе ў першую лігу ў гэтым сезоне ?**

– Такая задача перад камандай сапраўды ставіцца. Аднак бравадных фраз кідаць не варта: футбол выхваляння не даруе. Трэба выходзіць і даказваць права гуляць у першай лізе па спартыўным прынцыпе, гуляць толькі на перамогу ў кожным матчы. Лічу, што нашаму складу выканаць гэту задачу пад сілу. Усё ў руках і нагах маладзечанцаў.

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Катэгарычнае патрабаванне.
2. Яны не могуць пацець.
4. З Аляксандра Дзюма-бацькі: “Толькі нелюбімая жанчына ніколі не ...”.
7. Па-іншаму.
8. Аб’ект, па якім адрозніваюць, з’яўляецца населены пункт вёскай ці сялом.
9. Перыяд, калі рыба з прагнасцю кідаецца на яду.
13. Першы вырабілі ў 1910 годзе з канаплянага шпагату і клею з крыві жывёл. Праз год вынаходнік падаў заяву ў Патэнтнае ведамства ў Лондане і атрымаў патэнт праз два гады.
16. Што падарыў пірат Фрэнсіс Дрэйк у 1518 годзе каралеве Елізавеце?
17. Адна з самых доўгіх геаграфічных назваў належыць узгорку ў Новай Зеландыі, і з мовы маёры перакладаецца прыкладна так: “Тут быў Таматэа, чалавек з вялікімі каленямі, які спрабаваў забрацца на скалу, але саслізгваў, пры гэтым іграў на ... сваёй каханай”.
18. Сталярны інструмент для выдзёўбвання пазоў, дзірак.
19. Падчас Другой сусветнай вайны ў Чырвонай Арміі ваяваў кулямётчык Сямён Канстанцінавіч, узнагароджаны медалём “За адвагу”. Абараняў Адэсу, загінуў, абараняючы Севастопаль. Якое ў яго было прозвішча?
20. Рэлігійна-філасофскае вучэнне, паводле якога Бога лічаць істотай, якая стварыла свет, але не кіруе яго лёсам.
24. Упершыню яго скарысталі ў 1982 годзе падчас размовы на BBC.
26. Невялікі мяшочак для табака.
27. Ватыкан прызнаў яго тэорыю толькі ў 1992 годзе.
28. Хто не кажа праўду.
29. Жывая істота з найбольшай колькасцю зубоў.
31. Адзінае мора, у якога няма ніякага пабярэжжа.
33. З Яўгеніі Янішчыц: “Быццам ... у пракосах, / Чыстая сівень імжыць, / Мама падрэзала косы – /Стала іх цяжка насіць”.
34. Пер’е птушкі важыць больш, чым яе ...
35. Соус з жаўткоў з алеем і вострымі прыправамі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

3. На захадзе аўтаномнага раёна Унутраная Манголія іх пяць.
5. Труп жывёліны.
6. Сваім каханнем ажывіў статую.
10. Элітны грыб.
11. Чым у Старажытнай Грэцыі лічылася мяса свінні, памерлай ад пераядання?
12. Аптычны прыбор для аднаго вока.
14. Надпіс на манеце.
15. Рахунак паступленняў і даўгоў дадзенай установе.
16. Сярод усіх краін свету ёсць толькі 22, з якімі Брытанія не мела ваенных канфліктаў. Назавіце адну з іх.
19. Вялікі князь, які перанёс сталіцу княства ў Вільню, змагаўся супраць маскоўскага князя Івана Каліты за ўплыў на Пскоў і Ноўгарад.
21. Дзе ... ходзіць, там зямля не родзіць.
22. Галоўная страва на Новы год у Кітаі.
23. Самая важная рэч на свеце, па меркаванні Шарыкава.
25. Сталіца Харватыі.
26. У 17 стагоддзі чума спустошала цэлыя паселішчы. Некаторыя медыкі прызналі карысным гэта, нібыта яна знішчала заразу. Дзяцей і падлеткаў каралі, калі яны адмаўляліся гэта рабіць.
29. Эрых Марыя Рэмарк “Жанчына можа кінуць свайго каханага, але ні за што не кіне свае ...”.
30. Археолаг, які адкрыў Трою.
32. Вёска ў Ашмянскім раёне, дзе пахаваны хімік, доктар, асветнік і філосаф Анджэй Снядэцкі.
33. Выпадак, які служыць прыкладам, апраўданнем для падобных выпадкаў у будучым.
36. Зусім недасведчаны чалавек у нейкай галіне.

АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №15.

**Па гарызанталі.** 2. Хэмінгуэй. 3. Сонца. 5. Касета. 6. Гейша. 7. Дзялок. 8. Басяк. 13. Віконт. 14. Лісабон. 15. Дзяцел. 16. Неба. 18. Абрус. 20. Шомаў. 21. Абутак. 22. Хрысціянства. 23. Жабяня. 30. Гартны. 31. Магнэзія. 32. Абшчына. 34. Кошка. 36. Венгрыя.

**Па вертыкалі.** 1. Нэакортэкс. 4. Паветра. 7. Дамаск. 9. Вазелін. 10. Гіперкуб. 11. Абрыс. 12. Крэва. 13. Вясёлку. 17. Зубры. 19. Зачын. 24. Важак. 25. Маладзік. 26. Раўнавага. 27. Рысь. 28. Бастыён. 29. Інварыянт. 30. Гогат. 31. Мануфактура. 33. Шэкспір. 35. Гаварыльня.

## ГАРАСКОП НА 21-27 КРАСАВІКА



**АВЕН.** У панядзелак і аўторак адмоўцеся ад усялякіх спраў, калі гэта магчыма. Не варта і хадзіць па магазінах, бо шопінг не прынясе радасці. Лепш займіцеся духоўнымі справамі.



**ЦЯЛЕЦ**. Вам варта зазірнуць унутр сябе – у свой унутраны свет. Менавіта ў ім хаваюцца адказы на шмат якія пытанні, што хвалююць вас. Толькі ў гармоніі з сабой можна прыйсці да правільнага рашэння і вызначыць лепшы спосаб дзеяння. Усё астатняе – толькі здагадкі і непатрэбная трата сіл.



**БЛІЗНЯТЫ.** Кожны дзень вакол вас будзе многа розных людзей: сябры, сваякі, знаёмыя, калегі і проста выпадковыя людзі. Гэта добра, але трэба ўсё ж захоўваць асцярожнасць, бо не ўсе кантакты будуць станоўчымі, хтосьці вас можа расстроіць ці пакрыўдзіць, у самым горшым выпадку, і зусім нашкодзіць. А вось у сям’і вас чакае гармонія і ўтульнасць.



**РАК.** Вы будзеце як ніколі эмацыйнымі, і на тое, вядома, ёсць прычыны. Прычым эмоцыі вашы будуць ліцца цераз край і кожны раз праз розны. А яшчэ вы будзеце выпраменьваць радасць і аптымізм.



**ЛЕЎ.** Дні будуць спрыяльныя, асабліва ў пытаннях узаемаадносін паміж людзьмі. Але адносіны будуць звязаныя не з рамантыкай, а з работай. На гарызонце бачныя перагаворы і сходы, менавіта яны і будуць удачныя. А ўдача ў зносінах з іншымі людзьмі дазволіць вам вырашыць шмат якія пытанні на сваю карысць – не ўпускайце такі шанс.



**ДЗЕВА.** Усё ў вашых руках, і з гэтым нельга спрачацца. Удача цалкам залежыць менавіта ад вашых дзеянняў, і вінаваціць кагосьці іншага ў гэтым няма сэнсу. Але калі вы самі не жадаеце нічога рабіць, то само ў рукі да вас нічога не пойдзе. Таму вырашайце самі – рабіць штосьці ці скардзіцца на лёс.



**ШАЛІ.** Пастарайцеся прысвяціць гэты час калі не самому сабе, то блізкім і дарагім вам людзям. Асабліва важна ўдзяліць увагу пажылым членам сям’і, камусьці з іх можа спатрэбіцца ваша дапамога і падтрымка. Магчымыя сітуацыі, калі ўсё пойдзе зусім не так, як вам хацелася б на дадзены момант. Трэба ўсяго толькі пачакаць, і ўсё наладзіцца само сабой.



**СКАРПІЁН.** Добра было б правесці час з чалавекам, якія падзяляе вашы пачуцці, погляды на свет і зможа падтрымаць у цяжкую хвіліну. А калі такога чалавека няма, то прыйдзецца самому спраўляцца з эмацыйнымі праблемамі.



**СТРАЛЕЦ.** Вы, як заўсёды, на вышыні. Нават калі хтосьці лічыць, што вы не маеце рацыі і паступаеце не так, як трэба было б, – для вас не мае ніякага значэння чужое меркаванне, бо ёсць свая галава на плячах, якая кажа, што вы робіце ўсё так, як трэба. Такая ўпэўненасць у спалучэнні з добрай энергетыкай дазволіць вам многіх людзей перацягнуць на свой бок. А адсюль і вынік – усе справы пойдуць як па масле.



**КАЗЯРОГ.** Вам усё будзе ў радасць. Нават ад звычайнай работы вы зможаце атрымаць задавальненне. Гэтыя дні – перыяд спакою і адпачынку.



**ВАДАЛЕЙ.** Дні спрыяльныя для развіцця адносінаў, для вырашэння праблем, гарманізацыі адносінаў і складання планаў на будучыню. Прысвячайце час менавіта свайму ўласнаму жыццю, пакуль лёс садзейнічае вам у гэтым.



**РЫБЫ.** Калі раптам пагоршыцца настрой ці ўзнікне дэпрэсія на пустым месцы, то пачытайце любімую кнігу ці перагледзьце фільм, які падабаецца. Гэта пойдзе вам на карысць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | | | 4 | 6 | | |
| | | | | | | | | 3 |
| | 7 | | | | 2 | 8 | | 9 |
| | | 6 | | 2 | | | | 8 |
| | 3 | | 5 | | 8 | | 9 | |
| 1 | | | | 7 | | 3 | | |
| 3 | | 9 | 7 | | | | 6 | |
| 4 | | | | | | | | |
| | | 2 | 3 | | | 7 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015


● НАДВОР'Е

**22 красавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / +6 | | +6 / +8 | | +2 / +8 | | +2 / +6 | |
| | 738 | → 8 | 730 | → 8 | 735 | ↘ 6 | 743 | → 5 |
| Вільня | -2 / +3 | | +3 / +6 | | 0 / +7 | | -2 / +4 | |
| | 746 | ↗ 8 | 736 | → 8 | 744 | ↘ 7 | 751 | → 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.52
Захад 20.29
Даўжыня дня 14.37

Усход 4.33
Захад 15.02
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОРЬЯ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -4,5 °С у 1981 годзе
Максімальная тэмпература +24,1 °С у 1996 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,6 мм у 1979 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Рэпартаж з будаўнічай пляцоўкі Астравецкай АЭС. Журналісты "РГ" пабывалі ў прэс-туры, арганізаваным Міністэрствам энергетыкі.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Што добрага ў прафесіі педагога?



**Наталля Латышонак, выхавальніца:**
– Тое, што калі раніцай прыходзіш да дзяцей у групу, забываешся пра ўсе свае праблемы і пачынаеш жыць іх жыццём. Я з дзяцінства марыла працаваць з дзецьмі.



**Авеліна Мацюшонак, псіхолаг:**
– Добра тое, што педагог можа ўплываць на дзіця, фарміраваць яго светапогляд. Пры ўмове, што ў самога педагога светапогляд правільны.



**Святлана Варакса, кіраўнік фізічнага выхавання:**
– Добра ўсведамляць, што сваёй працай педагог робіць уклад у будучыню чалавецтва.



**Дар'я Мікуліч, вучаніца:**
– Неяк не думала. Напэўна, добра, калі дзеці на ўроках паслухмяныя і падрыхтаваныя. А калі не слухаюцца, тады дрэнна.



**Марыя Цярэшка, у дэкрэтным адпачынку:**
– Цяжка сказаць, не працуючы педагогам. Думаю, што дакладна добра – дык гэта вялікі адпачынак. Яшчэ магчымасць ганарыцца, калі сярод былых вучняў ёсць нейкія знакамітыя людзі.



**Наталля Міхалевіч, студэнтка:**
– Добра тое, што ты зможаш чаму-небудзь навучыць дзяцей. А яшчэ педагагічныя веды дапамогуць стаць добрай мамай для ўласных дзетак.



**Марыя Бельская, менеджар па продажах:**
Высокія мэты і вялікая справа. Прафесія, якая адначасова можа з'явіцца сэнсам жыцця. Але я не здолела б.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№16 (1147) 21.04.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 374. Падпісана ў друк у 9.00 20.04.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.